PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 40 (2264) Год XLIV Беласток 3 кастрычніка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## „Демократия нам не нужна”

Яўген МІРАНОВІЧ

Паглядзеўшы беларускае і польскае тэлебачанне ўвечары 16 верасня, зрабілася мне страшнавата. І нават не ідзе пра дэмагогію, выцякаючую з тэлеэкрана з нагоды 60-й гадавіны ўваходу Чырвонай Арміі ў межы Рэчы Паспалітай, але пра выступленне гэтага ж дня двух палітыкаў — прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і кандыдата ў прэзідэнты Польшчы генерала Тадэвуша Вілецкага.

Лукашэнка ў прысутнасці тэлевізійных камер праводзіў нараду з кіраўнікамі г.зв. сілавых структур. Заўсёды такія сустрэчы бываюць звышсакрэтнымі. Таму невядома чаму грамадзянам Беларусі паказвалі гэты пануры спектакль з удзелам аднаго акцёра і пару дзесяткаў статыстаў ва уніформах. Яшчэ ніколі Лукашэнка не паводзіў сябе так агрэсіўна ў адносінах да сваіх падначаленых. Раз'юшаны крычаў, размахваў рукамі, а сівыя генералы, калі выклікаў іх па прозвішчы, зрываліся на зважай. Сорамна было глядзець, што ўсё гэта адбываецца ў дзяржаве Беларусь, хаця прэзідэнт і прысутныя ў яго на сустрэчы прадстаўляюць выключна савецкую расу.

Палохае мяне не толькі форма выступлення Лукашэнкі, але таксама ўсё ім сказанае ці хутчэй выкрыкнутае. Намеснікам прэм'ер-міністра заявіў, што калі яшчэ будуць паказвацца апазіцыйныя газеты, хутка з імі „разбярэцца”. Газетную крытыку ў адрас улады акрэсліў антыдзяржаўным дзеяннем і абяцаў закончыць „игру в демократию”. „Нам демократия абсолютно не нужна, нам нужен порядок”, — крычаў прэзідэнт. У прысутнасці мільёнаў тэлегледачоў загадаў ён выдзеліць у Мінску месцы для дэманстрацый так, каб яны не выклікалі нагоды для тэрарысцкіх дзеянняў. Абазначае гэта, што неўзабаве ўсе легальныя дэманстрацыі будуць адбывацца недзе на ўскраінах горада, пры адной толькі ўмове, што не ўсе апазіцыянеры апынуцца ў турмах.

Лукашэнка публічна заклікаў міліцыянераў, кадэбістаў, пагранічнікаў да жорсткасці і бязлітаснай барацьбы з парушальнікамі законаў, якія ён сам устанавіў. „Надо прынять жорсткие меры, бескомпромиссные методы”, — загадаў камендантам і прыгразіў, што тыя, якія акажуцца мяккімі ў барацьбе з працўнікамі парадку, на працягу дзвюх гадзін будуць пазбаўлены працы. Сваімі жэстамі і словамі нагадваў Гітлера са старых дакументальных фільмаў. Шмат было ў яго выказваннях рыторыкі са слоўніка Дзяржынскага, Леніна і Сталіна. Лукашэнка выявіў, што ведае хто аплачвае апазіцыянераў, адкуль плывуць долары на іх дзейнасць. Падкрэс-

[працяг ☞ 4]



## Слава Богу за ўсё

Айцец Рыгор Сасна ў нядзелю 19 верасня ў рыбалаўскай царкве св.св. Кузьмы і Дзямяна адправіў падзячнае набажэнства з нагоды завяршэння збору плёнаў. Спяваў надзвычай прыгожа прыхадскі хор, сваю царкву абышлі прыхаджане ў хрэсным ходзе, з малітвамі і блаславеннямі, з вянкамі і кашамі поўнымі пладоў з палеткаў і агародаў, святочна апранутыя, таксама і ў нацыянальных беларускіх строях (жанчыны з Козлікаў). Затым частка з іх, на школьным аўтобусе, накіравалася ў рыбалаўскі кааператыў „Agro-Drób”, каб працягнуць святкаванне. Тут, ля праваслаўнага і каталіцкага крыжоў айцы Рыгор і Кшыштаф супольна памаліліся і падзякавалі Айцу Нябеснаму за спрыянне працы і духу нашага народа.

Паколькі артыстычная частка Свята плёну адбывалася на пляцы кааператыва (2 км ад Рыбалаў), бабулькі, якія спачатку саромеліся заходзіць у аўтобус, хутка перасталі шкадаваць мітрэнгі, як толькі азвалася бадзёра і спраўна вядучая канцэрт і гулянне Ліда Мартынюк. Сам прэзас сказаў пасля: „Очэнь было файно”.

Пачалі фэст „Хлопцы-рыбалоўцы” гітам „На зялёнай Украіне”, больш вядомым як „Гэй, саколы” (ён прагучаў на фэсце некалькі разоў у розных аранжыроўках і выкананні). Цудоўна выступілі дзеткі нулявога класа рыбалаўскай школы, падрыхтаваныя Лідай Мартынюк і Янкам Бурносам. Беларускіх акцэнтаў было шмат. Апроч выступлення вакальна-танцавальнага ансамбля „Ніва” пад кіраўніцтвам Мечыслава Пакумейкі (калісь памагаў ляўкоўскім „Цаглінкам”) з Верцелішак на Гродзеншчыне (калгас „Прагрэс”, апякун „Нівы”, сябруе з рыбалаўскім кааператывам), праспявалі і беларускія песні гайнаўскі „Absolwent” і „Duo Boys” (Ярак і Пятро; *pośpiewamy trochę i disco-polo*), вядома, і „Хлопцы-рыбалоўцы”, што супольна падспеўвалі з іншымі, і „Рэчанька” з Козлікаў (Люба Гаўрылюк далучыла да праграмы і жарты), і празрыстагалосая Ала Дубец. Моцны вецер малаціў таполі, што акружаюць спулдзельчы пляц, моцна біў у твары выканаўцаў, проста здуваў з пляцоўкі дробных звітных верцелішкаўскіх танцораў, што і „Лявоніху” ды „Крыжачок”, а нават барыню-сударыню ў рускіх строях *адплясалі* (рысінскія танцы — іх экспартная, заходняя адметнасць). Публіка, ад малечаў да старэчаў, гуляла, здаецца, выдатна. Хто хацеў, мог праехацца на гнядой кабылцы спонсара фэсту Рыгора Карчэўскага з Заблудава, хто запісацца ў пенсіённы фонд „Банкавы” ці „Winterthur” (перад ім красаваўся аграмадны, амаль як жывы бернардзінец) — таксама спонсараў. Хто меў ахвоту, удзельнічаў у конкурсах — дружна плялі на час вяроўкі, танцавалі з мячыкам між лабамі, спявалі... Зінаіда і Віктар Абрамовічы з хутара Астраўкі дэманстравалі свае пляцёнкі з саломы. А з ветрам змагаліся найчасцей гукі „Гэй, саколы!”, як ува ўсёй Польшчы. А ўсё спраўна перапляталася з рыфмаванкамі Анны Раманюк з Паўлаў, якая разам з Лідай Мартынюк склала праграму Свята плёнаў. Вершы бабулі Анны кранаюлі і палітыку, і нацыянальную гаспадарку, і надвор'е, а найбольш, вядома, добры збор плёну працы земляроба і павагу да яго. Жадала нам усім даседчаная паўлаўская старажылка перш за ўсё добрага настрою. „Слава Богу за ўсё”, і за тое, што можам знайсці хвіліну пацешыцца ў наш нялёгкі час.

Міра ЛУКША

*Фота аўтара*

## Замнога бульбы

У вёсцы многа маладых гаспадароў. Відаць гэта па прыгожых мураваных дамах і новых гаспадарчых будынках, аснашчаных вадаправодам і каналізацыяй. У мінулых гадах сяляне вымушаны былі трымаць бульбу да вясны, бо ніхто купляць не хацеў.

[*ураджай* ☞ 3]

## Успамін пра мудрага чалавека

Розныя формы супрацоўніцтва Вячаслава Лявонавіча Вярэніча з польскімі моваведамі знайшлі найбольш прадуктыўны рэзультат у перыядычным выданні „Studia nad polszczyzną kresową”, якіх шэсць гадавікоў (у 1982-1991 гадах) Вярэніч рэдагаваў сумесна з Янушам Рыгерам, памяшчаючы там свае працы і арганізаванага ім міжнароднага калектыву аўтараў, пасля таго, як стала немагчымым выдаваць далейшыя часткі „Польские говоры в СССР”.

[*памін* ☞ 4]

## Фэст у Ласінцы

Выступілі таксама „Чыжавяне” з Чыжоў і эстрадны калектыў „Капры”. Варта прыгадаць што эстрадныя калектывы „Казанова” і „Капры” ігралі ўвечары ў Ласінцы на танцавальнай вечарыне. Канцэрт завяршыўся выступленнем гродзенскай „Гарадніцы”. Калектыў выканаў, між іншым, песню „Каліна”, запісаную Алесем Лойкам у вёсцы Тыневічы.

[*мерапрыемства* ☞ 8]

## Праваслаўная рэлігія ў школе

Я на гэтыя сустрэчы не езджу з пустымі рукамі, кажа д-р Ян Зенюк. Там я выступаў з дакладам: „Заданні праваслаўнай катэхезы ў новым навучальным годзе ва ўмовах рэфармаванай сістэмы адукацыі”. Новы школьны год мае гістарычнае значэнне. Мінае якраз дзесяты год навучання рэлігіі ў школе.

[ ☞ 9]

## Нарадзілася я нанава

Ад пароку сэрца Аня пакутавала ад нараджэння. Стан яе здароўя моцна пагоршыўся, калі была вучаніцай пачатковай школы. Адзіным ратункам была перасадка сэрца. Тады такую складаную аперацыю рабіў толькі прафесар Збігнеў Рэліга з Забжа. Донара другога сэрца давялося Ані чакаць два гады. За першым разам не дайшло да аперацыі, бо акурат выехалі яны з мамай у Беласток і калі знайшлі іх па радыё ды завезлі ў Забжа, сэрца ўжо было непрыгоднае для перасадкі.

[*болей* ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Расійскі газ ідзе праз Беларусь

21 верасня ва ўрачыстай абстаноўцы была здадзена ў эксплуатацыю першая чарга беларускага ўчастка газаправода „Ямал — Еўропа". Кран на падачу газу на Захад асабіста адкрылі Аляксандр Лукашэнка і старшыня расійскага „Газпрама" Рэм Вяхіраў.

Зараз расійскі газ пойдзе па новых трубах пракладзеных ад Нясвіжа да польскай мяжы. У будучым годзе плануецца завяршыць працы над другой чаргой газаправода ад расійскай мяжы. Усяго ў Беларусі будзе пракладзена 587 кіламетраў труб „Газпрама". Праз іх у Еўропу будзе ісці 83 мільярды кубічных метраў газу ў год.

Тое, што газаправод пракладваецца па Беларусі ў будучым можа прынесці нямала карысці для краіны. Гэта новыя рабочыя месцы, аплата за транзіт з расійскага боку і паляпшэнне газазабеспячэння. Плануецца, што 30% патрабуемага газу, пасля ўводу ў эксплуатацыю ўсёй лініі Ямал — Еўропа, Беларусь будзе атрымоўваць бясплатна.

Як заўсёды Аляксандр Лукашэнка выкарыстаў падзею ў палітычных мэтах. Аднак дзіўна было глядзець, як ён прымаў на вышэйшым узроўні кіраўніка, няхай нават магутнага, расійскага прадпрыемства (Лукашэнка ўсё ж лічыць сябе кіраўніком цэлай дзяржавы). З прадпрымальнікам павінен сустракацца прадпрымальнік, а не прэзідэнт. Але была нагода выступіць перад тэлекамерамі з прамовай пра расійска-беларускае супрацоўніцтва і стрымацца Рыгоравіч не мог. У дадатак ён узнагародзіў Рэма Вяхірава ордэнам Пашаны „за вялікі ўклад у развіццё газіфікацыі Беларусі і ўмацаванне эканамічных і тэхнічных сувязяў паміж Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй".

Вяхіраў ордэн прыняў. Але яму ў першую чаргу патрэбны грошы, якія Беларусь вінна „Газпраму", а гэта 270 мільёнаў долараў. Выплачваць іх трэба ўжо зараз. На ўрачыстасцях 21 верасня Лукашэнка і Вяхіраў міла ўсміхаліся адзін аднаму. Але свята скончылася і беларускаму боку, як і раней, трэба шукаць шляхі выплаты запазычанасці за газ.

**(зк)**

## Пайшоў у лазню і не вярнуўся

Гэты год стаў адметным у Беларусі новай для краіны з'явай — пачалі знікаць невыгодныя рэжыму людзі. Калі, нягледзячы на моцную ахову, нейкім дзіўным спосабам пайшла з-пад „хатняга арышту" і больш не вярнулася былая старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Віннікава, вялікага рэзанансу ў грамадстве не было. Прапаўшая жанчына не займалася палітыкай, а проста нечым не ўгадзіла Лукашэнку. Знікненне, пры нявысветленых абставінах, былога міністра ўнутраных спраў генерала Юрыя Захаранкі, было ўспрынята ў палітычных колах Беларусі як знак пераходу дыктатуры да фізічнай расправы з апанентамі. Але створаная грамадская камісія па расследаванні знікнення экс-міністра знайсці яго не здолела. Маўчаць і праваахоўныя органы.

І вось новае таямнічае здарэнне. 16 верасня па дарозе дахаты прапаў выконваючы абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета Віктар Ганчар. Разам з ім знік яго сябра генеральны дырэктар фірмы „Красіка" Анатоль Красоўскі. Вечарам яны паехалі на машыне Красоўскага ў лазню. Адтуль Ганчар пазваніў жонцы і паведаміў, што вернецца дахаты ў палове дванаццатай. Але жонка мужа так і не дачакалася. Па звестках незалежных СМІ, на наступны дзень сябры прапаўшых знайшлі недалёка ад лазні кавалкі пабітых задніх ліхтароў ад машыны, кроплі крыві, разбітае аўтамабільнае шкло.

Праваахоўныя органы спачатку асаблівай цікавасці да здарэння не выявілі. Аднак, калі лёсам Ганчара зацікавіліся паслы заходніх краін і прадстаўніцтва АБСЕ ў Беларусі, была заведзена крымінальная справа і паднялася вэрхал у дзяржаўных СМІ. Тон яму задаў сам Лукашэнка. 19 верасня ён заявіў, што Ганчара трэба шукаць на Захадзе. Журналісты беларускага тэлебачання адразу пачалі расказваць свае версіі чаму Ганчар уцёк. А пра знойдзеныя сябрамі прапаўшых сляды гвалту было заяўлена, што яны былі кімсьці заўважаны яшчэ да здарэння.

Аднак у дэпутатаў апазіцыйнага Вярхоўнага Савета няма сумненняў, што Ганчара скралі спецслужбы. 19 верасня ён павінен быў старшынстваваць на планаванай сесіі парламента, на якой зацвярджаўся склад дэлегацыі ад палітычнай апазіцыі для ўдзелу ў перамовах з уладай пры пасрэдніцтве АБСЕ. Але перамовы апынуліся на мяжы зрыву. Дэпутаты прынялі пастанову, у якой у прыватнасці гаворыцца, што да высвятлення абставінаў знікнення Ганчара пачынаць перамовы немагчыма. Але апазіцыя ўсё ж спадзяецца на лепшае. Склад дэлегацыі быў зацверджаны. Калі раней палітычныя партыі збіраліся, як і ўлады, пасласць на перамовы ад сваіх арганізацый другасныя асобы, дык у канчатковым варыянце былі зацверджаны кіраўнікі сямі палітычных партый.

**Зміцер Кісель**

## „Спачатку было Слова..."

12 верасня ў Мінску ў цэнтральнай сядзібе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны адбылося ўрачыстае адкрыццё бібліятэкі рарытэтаў Кніжнага клуба ТБМ. Акрамя сяброў Таварыства і Кніжнага клуба на адкрыццё бібліятэкі завіталі папулярны беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў, вядомы гісторык — прафесар Анатоль Грыцкевіч, перакладчыца Алена Таболіч, а таксама прадстаўнікі больш чым дзесяці сродкаў масавай інфармацыі.

Па-жаночы харошымі, узнёслымі словамі абвясціла аб адкрыцці бібліятэкі намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы Людміла Дзіцэвіч.

Невялікай, прачулай прамовай прагнуў імпрэзу кіраўнік Кніжнага клуба ТБМ Зміцер Цехановіч. Ён распавёў гісторыю заснавання і фармавання бібліятэкі. Яшчэ тры месяцы таму ўзнікла ідэя сабраць хаця б невялічкую частку з таго багатага беларускага кніжнага фонду, які цяпер часткова страчаны назаўсёды ў віхуры войнаў, часткова рассеяны па бібліятэках і архівах Расіі, Англіі, Германіі, Летувы ды іншых краін, і які толькі на 5% сёння захоўваецца ў Беларусі. Пачалася праца па пошуку і зборы ацалелых да сённяшняга часу рэдкіх беларускіх кніг, іх факсімільных выданняў, а таксама — па зборы вартасных сучасных выданняў беларускай тэматыкі. Да фармавання бібліятэкі спрычыніліся намаганні дзесяткаў людзей і арганізацый. Толькі дзякуючы гэтаму бібліятэка атрымала сапраўды рарытэты, сярод якіх можна назваць асобныя кнігі і зборнікі беларускай літаратуры 10-30-х гадоў, а таксама — перададзеныя інфармацыйным агенцтвам БелаПАН мюнхенскія выданні паэзіі і драматургіі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Добрым словам згадаў З. Цехановіч і прыватныя ахвяраванні зычліўцаў — адзін з іх, пажадаўшы застацца невядомым, перадаў у фонды бібліятэкі некалькі дзесяткаў рэдкіх беларускіх кніг пачатку стагоддзя.

Далей слова ўзяў старшыня ТБМ Алег Трусаў, які шчыра павіншаваў прысутных з адкрыццём бібліятэкі і выказаў упэўненасць у яе пашырэнні, у тым ліку, і за кошт заснавання філіялаў пры мясцовых структурах ТБМ.

Яшчэ да адкрыцця бібліятэкі цэлую калекцыю выданняў беларускай эміграцыі і сучаснай беларускай прозы перадаў у яе фонды з уласнага кнігазбору Уладзімір Арлоў. На само ж адкрыццё спадар Уладзімір таксама прыйшоў з падарункам — старымі выданнямі кніг Янкі Купалы і Алеся Салаўя. Прафесар Анатоль Грыцкевіч перадаў у бібліятэку з даравальным подпісам уласную кнігу, выдадзеную 20 гадоў таму. Спадар Анатоль распавёў пра нялёгкія ўмовы выдання беларускамоўных гістарычных даследаванняў у савецкія часы. Дарылі кнігі і добрыя словы вядомая перакладчыца паэзіі з англійскай мовы Алена Таболіч, некаторыя з гасцей, што прыехалі з Заслаўя і Койданава, з Маладзечна і з-пад Воршы.

Пасля ўрачыстасці ўсе з цікавасцю азнаёміліся з самімі кнігамі. На паліцах і сталах ляжалі сапраўдныя скарбы — унікальныя выданні — узяць хаця б частку збору бібліятэкі былой Віленскай беларускай гімназіі. Сярод іх — першыя выданні І. Абдзіраловіча, М. Гарэцкага, Ф. Аляхновіча, У. Жылкі, падарункі па псіхалогіі і геаметрыі, факсімільныя выданні „Нашай нівы", „Дудкі беларускай" Францішка Багушэвіча, зборнікі паэзіі і прозы беларусаў замежжа, рэдкія асобнікі твораў нашых пісьменнікаў — спіс можна доўжыць і доўжыць. Ужо цяпер бібліятэка мае каля двухсот рэдкіх і рарытэтных беларускіх кніг і гэта яшчэ толькі пачатак справы.

Бібліятэка адчынена. Яна гасцінна запрашае ўсіх зацікаўленых — прыходзьце, чытайце, гартайце пажоўклыя ад часу старонкі і можа тады Вам, як і мне, прыйдуць на памяць словы з Бібліі: „Спачатку было Слова..."

**Андрэй Куваеў**

## 17 кастрычніка — Марш свабоды

На Беларусі ідзе падрыхтоўка да масавай вулічнай акцыі апазіцыі. Яшчэ напрыканцы лета маладыя беларускія палітыкі „новай хвалі": старшыня праваабарончага цэнтра „Вясна-96" Алесь Бяляцкі, сябра аргкамітэта Хартыі-97 Зміцер Бандарэнка, намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка, сябра палітсавета АГП Павел Данейка, віцэ-прэзідэнт Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч, намеснік старшыні АГП Анатоль Лябедзька і старшыня БСДП Мікалай Статкевіч дамовіліся пра каардынацыю восеньскіх дзеянняў апазіцыі. Кульмінацыяй павінен стаць „Марш свабоды" па мінскіх вуліцах 17 кастрычніка.

На думку арганізатараў, яны здолеюць сабраць на акцыю 100 тысяч чалавек. Апазіцыянеры лічаць, што кастрычніцкае эканамічнае становішча ў краіне прымусіць людзей выйсці на вуліцу. Свае дзеянні беларусы плануюць каардынаваць з сябрамі, у якіх падобныя праблемы. У верасні Вінцук Вячорка ездзіў у Бялград, дзе правёў перамовы з югаслаўскімі апазіцыянерамі.

Інфармацыйную падтрымку „Маршу свабоды" пачалі аказваць недзяржаўныя газеты. Большасць з іх у кожным нумары друкуе інфармацыю пра планаваную акцыю.

Аднак перад арганізатарамі стаіць вельмі цяжкая задача. Некалькі гадоў назад на вуліцы Мінска ўжо выходзілі дзесяткі тысяч чалавек. Палітыкі „старой хвалі" не здолелі выкарыстаць гэты патэнцыял. Людзі расчараваліся ў мітынгах, бо акрамя штрафаў, арыштаў і ўдараў міліцэйскіх кіёў нічога ад іх не атрымоўвалі. На апошняй акцыі апазіцыі ўжо збіралася толькі некалькі тысяч чалавек. Ці здолее пераканаць у мэтаздольнасці вулічных акцый „новая хваля" пакажа час. Вядома толькі, што ўлады зробяць усё, каб запалохаць людзей. Апошнім часам Лукашэнка выдаў шэраг указаў, якія абмяжоўваюць магчымасці апазіцыі. А 16 верасня ён па сутнасці забараніў усе вулічныя акцыі.

**Зміцер Кісель**

## Кніжны клуб ТБМ запрашае да супрацоўніцтва

Ласкава запрашаем журналістаў і чытачоў „Нівы" да супрацоўніцтва з Кніжным клубам Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Будзем удзячны за кожнае Ваша меркаванне, за кожную прапанову, таксама будзем рады Вашаму ўдзелу ў далейшым фармаванні кніжнага фонду бібліятэкі Кніжнага клуба ТБМ вартаснымі беларускімі выданнямі, а таксама замежнымі выданнямі пра Беларусь. Спісы паступленняў у бібліятэку будуць рэгулярна друкавацца ў афіцыйнай газеце Таварыства беларускай мовы „Наша Слова".

Расклад працы бібліятэкі Кніжнага клуба ТБМ:

Панядзелак 15.00 — 17.00

Чацвер 15.00 — 17.00

Нядзеля праз тыдзень (у дзень сустрэчаў Кніжнага клуба) 14.30 — 17.30

Мінскія тэлефоны для даведак і прапаноў:

тэл./факс 84-85-11, тэл. 13-43-52

Адрас Кніжнага клуба ТБМ:

220005, Мінск, вул. Румянцава, 13.

Кіраўнік Кніжнага клуба ТБМ — Зміцер Цехановіч.

# Замнога бульбы пасадзілі

Зямля ў Старым Беразове добрая. Гаспадары сеюць многа пшаніцы, садзяць буракі, але і ад бульбы не адмаўляюцца, ні даўней, ні цяпер. Мікола Кубайчук таксама многа бульбы перакінуў на сваіх плячах, калі яшчэ добрыя грошы за яе плацілі.

— Даўней па 30-40 тон прадаваў, але тады добра за яе плацілі. Расхваляваўся я некалькі гадоў таму, калі пасадзіў 2 гектары, цана якраз панізілася, а гандляр не заплаціў столькі, колькі раней дамаўляліся. Памятаю, ледзь у Бельску-Падляшскім знайшлі яго. Тлумачыў ён нам, што вярнулі яму ўсю бульбу назад, якую па чыгунцы ў Расію адправіў і мусіў на машынах везці. Але што ж зробіш, якія грошы плацілі, такія ўзяў, — кажа пакорлівы Мікола Кубайчук.

З гэтага часу селянін рэзка абмежаваў вырошчванне бульбы і толькі сёлета рашыўся паўтара гектара пасадзіць. „Цэнтраля насенная” з Бельскага-Падляшскага абяцала купіць на экспарт у Расію.

— Гаварылі, што браць будуць у кастрычніку і толькі тады будзе вядомая цана. А ці сёлетняя прадукцыя будзе селяніну прыбытковай, акажацца восенню, — мяркуе Мікола Кубайчук.

У вёсцы многа маладых гаспадароў. Відаць гэта па прыгожых мураваных дамах і новых гаспадарчых будынках, аснашчаных вадаправодам і каналізацыяй. У мінулых гадах сяляне вымушаны былі трымаць бульбу да вясны, бо ніхто купляць не хацеў.

— Два гады таму некалькі тон клубняў вясною на звалку вывезлі. З таго часу пачалі мы менш садзіць, — успамінае Марыя Мартынюк. — Сёлета кантрактавалі бульбу, але град пабіў і хіба мала прадаваць будзем.

У Старым Беразове многія сяляне спынілі капаць бульбу і ўзяліся за сяўбу азіміны.

На полі сустрэў я Марыю Максімюк, якая з нявесткай Малгажатай і ўнукамі збірала бульбу.

— Уражай у нас слабы, бо вясной мокра было, пасля прыйшла засуха, а на канец град пабіў, — тлумачыць Марыя Максімюк. Яна памагае гаспадарыць сыну Мечыславу, які пастаянна жыве ў Гайнаўцы. — Град усё пабіў і жыта, і трускалкі. Сын ужо хацеў кінуць гаспадарку, але я ўвесь час прашу, каб яшчэ не кідаў зямлі, бо можа лепш стануць плаціць за сельскагаспадарчыя прадукты.



*Марыя Максімюк з нявесткай і ўнукам збіраюць бульбу.*

Наведаў я раднага Рыгора Мароза.

— Бульбу садзіць не аплачваецца. Збожжа таксама таннае і прадаць яго няма куды. Мала хто прадаў жыта, ці пшаніцу з дзяржаўнай даплатай, а прыватныя прадпрымальнікі плацяць намнога менш, — сказаў радны. — Карысней прадаваць малако, але і за яго ў нас намнога менш плацяць чым у іншых рэгіёнах Польшчы. Калі ў нас для пастаўшчыкоў за клас экстра плацяць па 60 грошай, то ў Вэнгажэве па 90. Збоку гледзячы цяжка таксама сцяміць, як робяць падзел на класы. Поле хачу ўжо прадаць, але пакупнікоў на яго няма, калі збожжа таннае стала.

Даўжэйшая размова завязалася ў мяне са спадарствам Нінай і Міколай Кубайчукамі, якія гаспадараць на 40 гектарах. У гэтым годзе яшчэ 10 гектараў дакупілі і разлічваюць у галоўным на прыбытак ад гадоўлі быдла.

— Заўсёды маем каля 3 тыс. зл. у месяц за малако і гэта наш пастаянны даход, бо ад продажу збожжа толькі на камбайн і ўгнаенне хопіць. Усё палічыўшы з пустога ў парожняе перасыпаеш, — тлумачыў Мікола Кубайчук. — Хаця абора ў нас старая і трэба яе перабудоўваць, гадуем 22 штукі быдла, у тым ліку 15 кароў. Нядаўна некалькі фрызійскіх кароў купіў. Павінны яны недзе пад 30 літраў малака ў дзень даваць, але на практыцы хіба цяжка будзе дабіцца такіх надояў. Іх трэба не толькі сенам карміць, але і сіласам, і збожжам. Аднак сёлета ад засухі плён атрымаўся нізкі, бо вялікі град, які прыйшоў з-пад Збуча, многа майго збожжа вымалаціў і ў сярэднім толькі пад 3 тоны з гектара атрымаецца. Яшчэ тыя, якія пасадзілі цукровыя буракі, павінны ў гэтым годзе мець прыбытак.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# З’езд пакалення

***Праз падвойную тоўшчу двух дзесяцігоддзяў БАС бачыцца мне як самы просты і надзейны шлях у беларускую наменклатуру канца дваццатага і пачатку дваццаць першага стагоддзяў. Усе, што запісаліся ў іншыя арганізацыі, у беларускую наменклатуру не патрапілі, самаходаў і дачаў не нажылі, пасадаў не панадаставалі. А БАСавікі ўсяго панабралі. І яшчэ панабяруць. Хопіць адно ўзгадаць тут прыклад Геніка Вапы, каб зразумець, пра што я тут гавару. Кум кума, сват свата, абы толькі нашага брата...* — напісаў Ян Максімюк у сваім „Прывітанні ад Старога Нафталінніка” да ўдзельнікаў юбілейнага з’езда Беларускага аб’яднання студэнтаў, які прайшоў 18 верасня г.г. у Супраслі.**

За Яўгена Вапу — старшыню Беларускага саюза, аднаго з заснавальнікаў беларускамоўнай радыёстанцыі „Рацыя” — удзельнікі з’езда вельмі моцна перажывалі таксама і па іншай прычыне. Як вядома, праца ў электронных СМІ не спрыяе інтэлектуальнаму развіццю чалавека (красамоўна гэту ісціну выказаў „Часопіс” за верасень 1999 г.), дык не дзіва, што чатыры дзесяткі ўдзельнікаў імпрэзы ў Супраслі па-сяброўску захваляваліся за будучы склад думкі першага старшыні зарэгістраванага БАС.

А паколькі жыццёвыя шляхі павялі былых БАСавікоў у розныя напрамкі, прысутныя на з’ездзе згадзіліся нанава пазнаёміцца ды ад душы выспавядацца за сталом нарадаў, хто чым займаецца, якое грабастае „ўпасажэнне” (гэта абавязкова) ды на якой машыне актуальна ездзіць (неабавязкова). І трэба сцвердзіць, што ад гэтых прызнанняў усім зрабілася bardziej wesoło, чымсьці smutno.

— Я ўжо дзесяць гадоў таму неяк прадчуваў, — прызнаўся Валянцін Сельвясюк, рэдактар студэнцкага часопіса „Сустрэчы”, — што праца ў масмедыях не прадвяшчае нічога добрага для інтэлекту, дык вырашыў у сваім жыцці гандляваць капустай. Ну і не наракаю, гэта добра платны занятак, можна з яго нябляга выжыць.

Былі аднак і поўнасцю сур’ёзныя элементы. Славамір Іванюк — укладальнік кнігі пра беларускі студэнцкі рух у Польшчы ды ўладальнік найбольш абшырнага архіва Беларускага аб’яднання студэнтаў — падрыхтаваў выстаўку, на якую склалася за дзесятак стэндаў. Паказваліся на іх выбраныя дакументы, фатаграфіі, плакаты, выданні... — можна было жахнуцца колькі за амаль два дзесяткі гадоў адбылося, а таксама колькі з усяго пражытага час павыціраў з чалавечай памяці і яго штодзённай свядомасці.

Быў незацяжны даклад Яўгена Вапы, у якім згадваліся ўсе найважнейшыя моманты з гісторыі беларускага студэнцкага руху і прозвішчы студэнцкіх аўтарытэтаў (Юры Латышонак, Юры Туронак, Сакрат Яновіч). Думкі даклада натуральным шляхам працягваліся ў час сяброўскай гутаркі ля вогнішча. Там жа іграў на гітары і спяваў Віктар Шалкевіч, які зачытаў адмысловую паэму „Зорка БАС”, складзеную з выпадку юбілейнай сустрэчы, а эстэтцтва якой дакладна ўпісваецца ў рэчышча песеннай творчасці гэтага артыста (вельмі агульна кажучы).

Сказаць, што з’езд абмежаваўся да слязлівых успамінаў было б глыбока несправядліва і непраўдзіва. Як і бывала ў мінулым, пры нагодзе такіх сустрэч заўжды нараджалася зерне новай ідэі. На гэты раз стала ёю думка пра беларускі дом у Беластоку. У канцы канцоў, jak wieść niesie, у руках БАСавікоў невычэрпныя фінансавыя рэсурсы, уплывы і інтэлектуальны патэнцыял у галовах (прынамсі пакуль не рушыць радыё „Рацыя”, якое насмерць пазабівае ўсё здольнае творча думаць і ратаваць беларускую культуры тут ад загібелі — jak wieść, зразумела, niesie).

У наш час усеагульнай нябздычанасці, самалюбства, нявветлівасці, загледжанасці адно ў сябе, непрыкрытай зайздрасці, якая становіцца нормай грамадскага сужыцця, супрасльскі з’езд пакалення БАС стаў сапраўды светлым прамянём у гэтым наскрозь скарабачаным свеце.

**Аляксандр Максімюк**

# Малады солтыс у Відаве

Цяпер вёска старэе, маладыя людзі ўцякаюць у горад на працу ў прадпрыемствы ці заводы, а на вёсцы дажываюць толькі пенсіянеры, якія крыху абрабляюць зямлю каб пракарміць сябе ды дачку ці сына ў горадзе. Найстарэйшым жыхарам Відава ў Бельскай гміне з’яўляецца Шымон Мойсік, якому 95 гадоў, а нядаўна памёр 94-гадовы Пракоп Фірсовіч, пра якога дапамогу пры пабудове аўтобуснага заварота пісаў я калісь у „Ніву”. У Відаве на 700 жыхароў ёсць 11 сапраўдных земляробаў, якія абрабляюць ад 15 да 30 гектараў ворнай зямлі. Калі настане Еўрасаюз, тады трэба будзе мець не менш чым 50 гектараў і наша сялянства пойдзе ў рассыпку. Бо як тут будзе працаваць, наракаюць жыхары Відава і навакольных вёсак, калі ўсё даражэе, сельскагаспадарчыя машыны старыя, а новыя няма за што купіць.

Уладзімір Белаказовіч (на здымку), сын Мікалая, калі хадзіў у школу, у вольныя ад навукі хвіліны заўсёды дапамагаў бацьку, у тым ліку і ў грамадскіх працах, м.інш. пры пабудове святліцы, у якой цяпер адбываюцца толькі вясковыя сходы, а рэшту часу пустуе. Калі Уладзімір закончыў механічную школу і адслужыў у войску, ажаніўся ў 1983 годзе з прыгожаю дзяўчынай Валяй з Ягуштова. Пераналі тады ад бацькі 22 гектары зямлі і сталі гаспадарыць. Нарадзіліся ў іх два сыны і дачка, якія цяпер вучацца ў бельскіх „тройцы” і белліцэі. У лютым г.г. Уладзіміра выбралі солтысам. Дагэтуль солтысам 25 гадоў быў Аляксандр Сцяпанаў, які цяпер здаў усё маладым, каб тыя бралі справы ў свае рукі.



Новы солтыс плануе пралажыць асфальтавае палатно праз Відава ў Городнікі, каб тою дарогаю мог пайсці аўтобус; цяпер там жвіроўка. Таксама трэба будзе задбаць, каб часцей у Відава ездзіў гарадскі аўтобус, бо цяпер толькі два разы раніцай і пасля поўдня ездзіць, бо гміна грошай не мае. Усе плацяць падаткі, а калісь, калі „тройка” ездзіла кожныя пятнаццаць мінут, пасажыраў было шмат. Цяпер людзі ездзяць веласіпедамі, бо калі схочаш, тады паедзеш і прыедзеш.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Успамін пра мудрага чалавека



Вельмі цяжка памінаць чалавека, з якім ты адносна нядаўна сумесна праводзіў дыялекталагічныя абследаванні на Віцебшчыне ці ў другіх месцах Беларусі, якога чарговы артыкул толькі што памяшчаў у польскім навуковым выданні, з якім канкрэтна дамаўляюся аб далейшых планах супрацоўніцтва! Усё гэта мела месца ў апошнім годзе ў маіх адносінах з Вячаславам Лявонавічам Вярэнічам, які адышоў ад нас у выніку цяжкай, знішчаючай хваробы ў канцы жніўня 1999 года ў Мінску.

Сям'я і сябры патрацілі самага блізкага чалавека з вялікім, добрым і разумеючым сэрцам, мужа і бацьку, на якім заўсёды можна было абаперціся, які глыбока кахаў. Навуковае асяроддзе развіталася са сціплым даследчыкам беларуска-польска-літоўскага паграніччa, з адным з лепшых у Беларусі знаўцаў польскай літаратурнай мовы і культуры, з арганізатарам калектыўных міжрэспубліканскіх даследаванняў польскіх гаворак у Савецкім Саюзе; аўтарам многіх этна- і сацыялінгвістычных прац з гэтай галіны.

Вячаслаў Лявонавіч Вярэніч нарадзіўся 12 красавіка 1924 года ў вёсцы Рухча Столінскага раёна на Палессі, у сялянскай сям'і. У 1931 годзе памёр яго бацька, пакідаючы маладой маці трое малых дзяцей, з якіх Вячаслаў быў найстарэйшы. Відаць, гэтая старэйшасць у жыцці сям'і і без бацькі выпрацавала ў ім апякунчыя адносіны спачатку да малодшых сясцёр і маці (я ж адзіны мужчына), а ў далейшым да вучняў і ўсіх тых людзей, з якімі супрацоўнічаў ці з якімі проста скрыжаваліся яго жыццёвыя дарогі.

З 1930 па 1939 год ён вучыўся ў пачатковай школе і ў польскай гімназіі і быў настолькі падрыхтаваны, што ў 1940 годзе, пасля 6-месячных настаўніцкіх курсаў, стаў працаваць настаўнікам у аднакамплектнай пачатковай школе на хутары Магільна Столінскага раёна. Настаўніцтва стала яго жыццёвай прафесіяй, з перапынкам на час нямецкай акупацыі Піншчыны, калі працаваў на гаспадарцы і дапамагаў партызанскім атрадам. З восені 1944 па 1957 год, безупынна звязаны працай са школьніцтвам Столінскага раёна, вучыцца і паступова павышаецца па службе на дырэктара сямігадовай школы, інспектара райана і кіраўніка раённага аддзела адукацыі. Завочна канчае Пінскае педвучылішча (1946), Пінскі настаўніцкі інстытут (1952) і Мінскі педагагічны інстытут імя Горкага (1956) — спецыяльнасць: русский язык и литература.

У 1957 годзе Вячаслаў Вярэніч паступіў у аспірантуру ў прафесара Бернштэйна ў Маскве, якую закончыў у 1961 г. з навуковай ступенню кандыдата філалагічных навук па спецыяльнасці славянскія мовы і стаў працаваць у Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР у сектары славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства. З гэтага часу пачынаюцца яго паслядоўныя, упорныя даследаванні польскай мовы на тэрыторыі СССР, у тым ліку перш за ўсё ў Беларусі і ў Літве, дзе цікавяць яго перад усім польска-беларускія этнічныя і моўныя адносіны. Сацыя- і этналінгвістычныя працы Вячаслава Лявонавіча, аснаваны на вялікім, карпатліва сабраным фактычным матэрыяле, прыносяць і цікавыя тэарэтычныя высновы на тэму моўных кантактаў на паграніччы. Бібліяграфія аўтара налічвае больш 120 публікацый, друкаваных у Беларусі і ў шматлікіх заграпічных выданнях, галоўным чынам у польскіх.

Розныя формы супрацоўніцтва Вячаслава Лявонавіча з польскімі мовазнаўцамі знайшлі найбольш прадуктыўны рэзультат у перыядычным выданні „Studia nad polszczyzną kresową", якіх шэсць гадавікоў (друкаваных у 1982-1991 гадах) Вярэніч рэдагаваў сумесна з Янушам Рыгерам, памяшчаючы там свае працы і арганізаванага ім міжнароднага калектыву аўтараў, пасля таго, як стала немагчымым выдаваць далейшыя часткі „Польские говоры в СССР" (1973, ч. I і II) пад шыльдам Акадэміі навук БССР. Адной з тэм, якім у апошнія гады Вячаслаў Лявонавіч прысвяціў многа ўвагі быў параўнальны аналіз імён і прозвішчаў на вясковых надмагільных помніках з актуальнымі рэестрамі сельскіх кантор. Анамастычны матэрыял выкарыстоўваў для характарыстыкі этнічных змяненняў, якія праходзілі на беларуска-польска-літоўскім паграніччы.

Звесткі пра навуковыя працы Вячаслава Вярэніча можна знайсці ў розных прафесійных выданнях. У гэтым успаміне хочацца прыблізіць чытачам асобу — воблік чалавека — свядомага беларуса і палешука, сябру палякаў, спецыяліста па польскай мове і культуры, адначасова захопленага праявамі нацыянальных культур іншых народаў, у тым ліку, а можа перад усім рускага. Успамінаю Вячаслава Лявонавіча як моцнага самастойнага і парадачнага чалавека, які шмат зрабіў для паняцця айчыны, але і для ўзаемаразумення людзей жывучых у шматнацыянальных асяроддзях, для іх узаемнай пашаны і належных правоў. Гэта Ён быў сярод падпісаных пад пісьмом Гарбачову ў абароне правоў беларусаў да выкарыстоўвання беларускай нацыянальнай мовы ва ўсіх праявах жыцця. Гэта Ён вучыў роднай мовы палякаў і чытаў лекцыі па гісторыі Польшчы на сходах Саюза палякаў Беларусі. І гэта ж зноў Ён сустракаў добрым беларускім словам і ўводзіў у тайны сужыцця на беларуска-літоўска-польскім паграніччы студэнтаў Варшаўскага універсітэта, якія гэтую сустрэчу запомнілі на ўсё жыццё. У іх памяці Вячаслаў Лявонавіч Вярэніч уяўляецца як „грамадзянін Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай многіх народаў", пераемнік іх найлепшых традыцыяў.

Вялікая пашана памяці Вячаслава Вярэніча будзе пераходзіць на наступныя пакаленні. Ягоныя працы, сведкі рэчаіснасці, якая адыходзіць, памогуць разумець гісторыю. „Брамы ў бездань смерці не замкнуліся за ім шчыльна".

**Альжбета Смулкова**

*Фота Анны Энгелькінг*

# Знішчэнне мовы

***(працяг; пачатак у 31 н-ры)***

**9. „Свабода" выбару мовы**

Сапраўдная свабода выбару мовы магчымая толькі на правах раўнапраўнасці моваў. Гэтага не бывае ў аніводнай шматнацыянальнай дзяржаве. Там немінуча існуе прыцісканне і нават знішчэнне іншых нацыянальных культур, моваў, перадавых мыслячых асобаў, якія не належаць да пануючай нацыі.

Словы пра правы чалавека ў выбары мовы існавалі ў законах Савецкага Саюза і II Рэчы Паспалітай (у 1918-1939 гг.). Рэальнасць заўсёды зводзілася там да выбару для ўжывання зусім не беларускай мовы. Гэта прыводзіла да дэнацыяналізацыі (страты адчування сваёй нацыянальнай прыналежнасці) і асіміляцыі (паглынання) беларусаў суседнімі „братэрскімі" народамі.

Адным з ключавых словаў у савецкай літаратуры па пытаннях гісторыі і мовы было слова „добраахвотны". „Добраахвотна" нерасіяне „прыядноўваліся" да Расіі. „Добраахвотна" на ролю спосабу міжнацыянальных зносінаў была абрана руская мова. Звычайная логіка тых, хто зняволівае іншых: маўляў, ахвяра сама прасілася пад ярмо.

Сёння, калі можна пачуць размовы пра правы асобы, часам з ёю звязваюць свабоду выбару мовы. На ўвазе маецца адно: як, жывучы ў Беларусі, не карыстацца і не вучыць беларускае мовы.

Але супрацьстаўленне правоў нацыі правам асобы ўзнікае часцей за ўсё ў каланізатара. Гэта ён лічыць асобаю перад усім каланізатара і патрабуе ўсіх тых правоў, якія маюць жыхары былой калоніі, не адмаўляючыся, зразумела, ад правоў каланізатара.

Прыкладаў можна прыводзіць шмат. Прыгадаю найсвяжэйшы: 12 траўня 1999 г. а 17-й гадзіне на Расійскім тэлебачанні (праграме РТР) у перадачы „Момент истины" прадстаўнік Кангрэса рускіх абшчын (КРА) у Казахстане ўзбураўся тым, што там патрабуецца ад чыноўніка абавязковае веданне і валоданне казахскаю мовай. Ён назваў гэта „забаронаю прафесіі". Цікава, што ніхто не падказаў яму, што ад урадаўца ў Расіі патрабуецца абавязковае валоданне рускаю мовай!

Чаму да галавы не прыходзіць думка, падобная думцы прадстаўніка КРА ў Казахстане, у тых краінах, дзе з правамі чалавека абстаіць усё нармальна? Чаму грамадзяне былога СССР не абураюцца, калі ў ФРГ і ЗША, каб уладкавацца на працу, трэба здаць экзамен на нямецкай і ангельскай мовах?

Прыязджайце, калі ласка, да якойнебудзь еўрапейскай або амерыканскай краіны і патрабуйце, каб з вамі размаўлялі на „нормальном языке", гэта значыць, вашай мовай. І каб у школе і універсітэце выкладанне ішло таксама вашым „нормальным языком". „Свабода" выбару мовы ў сучаснай Беларусі азначае свабоду нявыбару беларускай мовы. Дэмакратычны лозунг прыйшоў на месца колішніх непрыхаваных і прыхаваных прапаноў асімілятараў.

*(працяг будзе)*

**Валянцін Грыцкевіч**

# „Демократия нам не нужна"

[**1** ☞ *працяг*]

ліў тым самым, што ўсе, якія выступаюць супраць яго палітыкі, з'яўляюцца наёмнікамі замежных змрочных сіл. Выступаў ён у ролі камандзіра акружанай ворагамі крэпасці, дзе ўсе метады, патрэбныя для стрымання ворагаў, апраўданыя.

Гульні Лукашэнкі ў вялікага „вождя" славянскага свету можа і былі б забаўнымі, калі б за гэтым не ішла новая хваля саветызацыі нацыі, знішчэнне працэсу грамадзянскай адукацыі, абмежаванне свабоды і прыніжаючая чалавечую годнасць сістэма кіравання дзяржавай. Лукашызм прыніжае не толькі звычайных грамадзян, але таксама найвышэйшых функцыянераў краіны. Нідзе ў свеце ніякі прэзідэнт не лае публічна міністраў як феадальны пан сваіх служак. На ўсё гэтае глядзяць грамадзяне, бачаць той прымітывізм на вярхах улады. Большасць не ўсведамляе сябе, што ў свеце нормай з'яўляецца зусім іншы спосаб паводзін публічных асоб. Лукашэнка лаючы міністраў явіцца ім „добрым бацькам", які дзеля шчасця свайго люду гатовы амаль біць найвышэйшыхураднікаў. Гэта можа падабацца толькі савецкаму чалавеку.

Дзве гадзіны пасля выступлення на беларускім тэлебачанні Лукашэнкі, на польскім тэлеканале „Polsat" можна было пабачыць папулярную праграму „Tok Szok", дзе журналісты Пётр Найштуб і Яцэк Жалікоўскі запрасілі ў студыю генерала Тадэвуша Вілецкага. Быў ён адным з найбольш давераных супрацоўнікаў прэзідэнта Валэнсы і галоўным героем г.зв. „драўскага абеду". Сёння праяўляе ён палітычныя амбіцыі і не скрывае, што праз год будзе адным з кандыдатаў у прэзідэнты Польшчы. Журналісты пыталі яго пра палітычную праграму. Генерал не задумоўваючыся адказаў, што ўзорам для яго з'яўляецца чылійскі дыктатар Аўгуста Пінахэт. У сямідзесятых гадах Пінахэт, пазбавіўшы ўлады легальнага прэзідэнта Сальвадора Альендэ, пры дапамозе тэрору, садыстычных метадаў, зняволення апазіцыянераў, канцлагераў для ўсіх падазроных вярнуў г.зв. парадак. Замучаных было тады звыш 200 тысяч чалавек. Сёння кандыдат на пасаду прэзідэнта Польшчы адкрыта заяўляе, што метады Пінахэта лічыць слушнымі і, калі б быў пры ўладзе, для ратавання парадку пакарыстаўся б імі. У адрозненні ад Лукашэнкі Вілецкі не з'яўляецца аднак яшчэ прэзідэнтам і мала праўдападобна, што ім калі-небудзь стане. Аднак пасля яго выступлення адчувалася, што нешта і ў Польшчы здарылася. Вядомы палітык не скрываў сваіх схільнасцей да фашысцкіх метадаў кіравання.

Пра неабходнасць навядзення парадку гаварылі калісь Гітлер, Сталін, Мусаліні і дзесяткі меншых дыктатараў ва Усходняй Еўропе. Пасля вайны свой парадак наводзілі сотні фюрэраў на ўсіх кантынентах нашай планеты. Дзеля парадку, прыдуманага ў хворых мазгах, гінулі мільёны людзей. Таму пасля дасведчанняў дваццатага стагоддзя шакіруе рыторыка такіх палітыкаў як Лукашэнка ці Вілецкі. Найгоршае, аднак, што людзі такога фармату заўсёды пхаюцца да ўлады і часта яна трапляе ў іх рукі.

**Яўген Мірановіч**

# Літаратурна-мастацкая старонка (477)

## верш як час

*ой ляцелі гусі*
*грайце*
*завіруйма ў танцы*
*мы ўбачым іх крылы*
*вялікія*
*недасяжныя*
*дайце нам гэтыя крылы*
*мы ўзляцім*
*над шырокім прасторам*
*будзем смяяцца*
*які наш свет малы*

Гэтыя радкі з'явіліся ў „Ніве" 5 красавіка 1970 года. Характэрная тут для маладосці прага ўсё займець, сягнуць недасяжнага, радавацца і весяліцца. Жыццё, аднак, карэктуе спадзяванні. Наогул больш у ім падзенняў, чымсьці бестурботных палётаў *над шырокім прасторам*.

Нікому тады невядомая дзяўчына Надзея Артымовіч таксама неўзабаве, пасля варшаўскіх блуканняў, прызямліцца ў родным Бельску. Не бесклапотна. І стане вядомай як „паэтка амаль цалкавіта зачыненая перад рэальнасцю навонкі ейнай душы" (Ян Максімюк, „Словы ў голым полі. Аб новых каардынатах беларускай літаратуры". „Ніва", 29.06.1997).

Надзея Артымовіч „піша вершы не таму, што ўмее пісаць, а таму, што, па сутнасці, яны ўжо напісаны, і напісаны самой сутнасцю: яна дае ім выявіцца, вымавіцца, вымалявацца, вытлумачыцца, зрабіцца прысутнымі, і калі гэта здараецца, то ў Бельску грае *старая музыка*, а ў свеце дзейсніцца свята, у якое прысвячаемся і мы", — напісаў Алесь Разанаў. Тэкст „Выспа Надзеі Артымовіч" з'явіўся ў толькі што выдадзеным Праграмнай радай тыднёвіка „Ніва" зборніку „адплывае спакойнае неба"*. Зборнік і ёсць тым святам, у якое і мы — чытачы — прысвячаемся. Напярэдадні 30-годдзя творчасці паэткі.

„Надзея Артымовіч ніколі не дбала пра рэкламу свае паэзіі, не пераўтварала яе ў тавар, захоўвала вернасць запісаным словам, — піша ва ўступе Яўген Мірановіч, рэдактар зборніка. — Час — найбольш справядлівы суддзя місіі кожнага чалавека. Думаю, што Надзея Артымовіч можа спакойна чакаць яго ацэнкі".

А мы можам у гэтым зборніку прасачыць, як час фармаваў яе паэзію. Хоць Яўген Мірановіч укладаў вершы не трымаючыся дакладна храналогіі, а кіруючыся выключна сваім адчуваннем, усё-ткі ў гэтым укладзе відаць працэс сталення. Паэтка з цягам часу адкідае ўсе неабавязковыя словы, пакідае толькі згушчаныя вобразы, эмоцыі, пачуцці. „Надзея Артымовіч скіроўваецца на сваю, зберажоную ад наступу сушы, выспу" (Алесь Разанаў).

„адплывае спакойнае неба", гэта другі рэтраспектыўны зборнік Надзеі Артымовіч. Першы — „З неспакойных дарог" — выйшаў у пачатку дзевяностых у Мінску і ў нас шырока не распаўсюджваўся. Тым большая радасць паклоннікам яе таленту, які праявіўся ўжо ў першым друкаваным вершы. У другой яго частцы відаць прадпасылкі ўсяе пазнейшай складанасці гэтай паэзіі:

*і калі ўпадзем*
*на зямлю чорную*
*мы ўбачым*
*свет*
*вялікі*
*і мы без крылаў*
*дзе яны*
*гусі забралі...*
*ой ляцелі гусі...*

**Мікола ВАЎРАНЮК**

* Надзея Артымовіч, *адплывае спакойнае неба*; рэдактар Яўген Мірановіч, Праграмная рада тыднёвіка „Ніва", Беласток 1999

## Перапрашэнне

*Перапрашаем спадара Лявона Тарасэвіча за надрукаванне ў „Ніве" № 36 ад 5 верасня 1999 г. інтэрв'ю з ім без яго згоды.*

**РЭДАКЦЫЯ**

## „Der Dritte Krieg"

Яшчэ ў 1996 годзе ў &Maga Studio паўстаў вельмі цікавы музычны матэрыял пад таемным загалоўкам „Der Dritte Krieg". Гурт, які запісаў гэту музыку называецца больш зразумела — гэта мінскі „Жыгімонт Ваза". Трое маладых людзей, як выяўляе запіс, у змозе стварыць эфект каманды прынамсі ў шэсць асоб. Да таго ўсе інструменты жывыя — без ніякіх камп'ютэраў.

Музыку, якую прапануе „каралеўскі" гурт цяжка адназначна назваць. Многа тут моцнай гранж-гітары, клавішаў, якія вельмі цікава аранжыруюцца ў інструментальных творах. Трэба сцвердзіць, што ўвогуле аранжыроўкі тут амаль ідэальныя. Хаця стужка „Der Dritte Krieg" у крамах паявілася ў 1998 годзе, то трэба сказаць, што два гады, у час якіх музыка старэла недзе ў хаце, не паўплывалі на яе якасць адмоўна. На маю думку, гурт „Жыгімонт Ваза" трэба рэкамендаваць беластоцкім слухачам, як беларускай мінскай публіцы — „Р. Ф. Брагу".

Станоўча трэба ацаніць таксама тэксты, у якіх бачым вельмі жорсткае супрацьўленне вайне, хлусні, абыякавасці ды фізічнаму насіллю і псіхічнаму здзеку. Гурт таксама выказваецца супраць нацызму, расізму ды паўсюднага безгалоўя. Падобныя ідэі, паводле мяне, трэба прыбліжаць моладзі, а свет будзе лепшым.

Матэрыял канчаецца польскамоўнай песняй гурту „Republika" пад загалоўкам „Nowe sytuacje". Гэта, здаецца, своеасаблівая аптымістычная прага новых, добрых ды спакойных часоў.

**Лукаш СЦЕПАНЮК**

*Міра* ЛУКША

### Яно

Увабраўшы ў карэнне
чорную любоў глебы
выбухне кіпенем
белага колеру
спектрам усіх вясёлак

ад пачатку

ад слова
якое было
разам:
дабро
краса і любоў

і ўбачыў Гасподзь
з замілаваннем
і сказаў
яшчэ раз

і яшчэ раз
вуснамі Адама

* * *

Ці трэба слоў салому
церушыць на ахвярны касцёр?
Матылькі агню шугаюць
ў іскрыстае зоркамі неба,
чорнае, як дно акіяна;
ён гнецца і вагаецца,
з марай пераліцца цераз край
паветра, і хваля за хваляй
роўна зліцца з нязмераным,
мнагалікі ў кроплях;
кладуцца на чыстую хвалю.
Ссыпаемся ў існасць
былога разам.
У россыпе хваль і хвіль
знаходжу сябе зоркай,
каменьчыкам,
смакам жыцця жыхара ракавінкі,
самотай гары і мікроба,
якімі ты ёсць і будзеш.

*Міхась* КУПТЭЛЬ

### Разлады

Паэт у сваім
часе
і ў сваёй прасторы
ў стыхіі тварэння
абдзёртай з брыдоты

Паэт мёртвы і жывы
ак ажыўшы камень.

Можа аднак астанецца
памяць
або
крохкі ліст паперы

і словы
словы
словы.

*Пераклаў з польскай Віктар ШВЕД*

*Міхась* АНДРАСЮК

### перад ад'ездам

перад ад'ездам
доўжыцца хвіліна
позірк
позірк
поціск рукі
вечар
ракі крутая лінія
цвікі-цягнікі
перад ад'ездам
пасля развітання
памяць
памяць
камення крык
вецер
адвагі вага ваганне
і ноч
і ў ноч
ад'язджае цягнік

*Алесь* ТУРОВІЧ

### Вал

Паспрабуй злавіць рыбку ў
Мутнаватай вадзе.
А лепей у балоце.
Тут многа інтэрферальных духаў,
Таму станем паляўнічымі прывідаў.
Пасля нам прыйдзецца
Прыкласці многа сіл
Дзеля таго, каб збегчы з тэлеэкрана.
Я не змагу дакрануцца да цябе ў
Двумернай мультыплікацыйнай
прасторы,
Але дзеткі будуць радавацца таму,
Якія штукі мы выкідваем ім
на пацеху.
Галоўнае — не трэба сачыць
За кожнай кропкай
Намаляванага цела.
Атрымваецца значна горш чым
у сараканожкі.
Разумныя камп'ютэры ўсё
падлічылі —
Нам застаецца толькі
Аддацца голасу продкаў.
З тэлевізара выйсці вельмі цяжка.
Значна цяжэй, чым туды ўвайсці.
Застанецца толькі спадзявацца,
Што нам трапіў добры сцэнарый —
З добрым заканчэннем для нас.
Таму я так люблю народныя казкі.

*Людміла* РУБЛЕЎСКАЯ

* * *

Пра што пісаць?
Высока нашы зоры,
Што ім да нашай цьмянай мітусні.
Не ведаюць гардыні і пакоры
Яны ў сваёй халоднай вышыні.
Пра што пісаць?
Не разумеюць людзі.
Адам кусае яблык не таму,
Што той, хто з'есць яго —
разумным будзе,
А проста есці хочацца яму.
Але маўчаць?..
Няшмат у гэтым шчасця.
Маліцца цяжка ўласнаму крыжу,
Калі ад болю хочацца праклясці...
Я не жадаю шчасця.
Я пішу.

*Анатоль* МАЎЧУН

### Кліч

Крывёй і попелам суседзі
— вятры пяском — спакон вякоў,
нашых падзей сляды зацерці
імкнуцца. Нам гатовы зноў
накінуць ролю — ў нашай хаце!
чужым пакорных халуёў.
Дык дзе ж паэты? бард дзе шчыры,
які не пашкадуе струн,
ў людскім сэрцы звонам ліры —
праўдай ударыць як пярун?
Складзе пра продкаў нашых
эпас...
за годнасьць стане змагароў...
Прачніцеся ж пакуль не позна!
А мо памерлі ўсе? Ну што ж,
не пашкадуе вецер жвіру...
— й магілаў зграя груганоў...

*Барыс* РУСКО

### Клаўдзія

Між шыпамі ружы
Ёсць кветкі,
Клаўдзія!
Між доўгімі вейкамі
ёсць слёзы,
Клаўдзія!
Між каханнем і днём
ёсць світанне,
Клаўдзія!
Тваё цела абтрэпвае Вуліца.
Прачніся,
Клаўдзія!

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Барбара ТРАФІМЮК

* * *

Хмара чорная з градам
над вёскай бушуе,
а дзіця ў садочку
плача ды сумуе.
Бедна сірацiна
вярнулася з поля,
але не дадому,
ах доля ты, доля.



*Сяброўкі з Рыбал і Бельска-Падляшскага.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Уладзімір АРЛОЎ, Адкуль наш род — апавяданні па гісторыі Беларусі

**У палоне**

Не спадзеючыся перамагчы ў адкрытым баі, ворагі Полацкага княства вырашылі дзейнічаць хітрасцю. Улетку 1067 года два войскі сустрэліся зноў каля горада Воршы. Усяслаў стаяў з дружынаю на адным баку Дняпра, кіяне — на другім. Кіеўскі князь Ізяслаў запрасіў Чарадзея на перамовы і пакляўся, што не ўчыніць полацкаму валадару ніякай крыўды. На знак свае праўдзівасці ён перад усім войскам пацалаваў крыж.

Тым разам мудры Усяслаў памыліўся. Узяўшы з сабой двух сыноў, ён пераплыў на чоўне раку і без зброі і без аховы зайшоў у шацёр да кіеўскага князя. Той крыва ўсміхнуўся і махнуў рукой. З усіх бакоў наляцелі дружыннікі, і палачане ўмомант ляжалі на доле звязаныя вяроўкамі.

Знатных палоннікаў завезлі ў Кіеў, закавалі ў цяжкія кайданы і кінулі ў земляную турму.

Гэта была халодная і сырая яма, накрытая зверху ў тры накаты бярвёнамі, з маленькім акенцам, праз якое ледзьве тачылася паветра. У акенца вязням прасоўвалі кавалак хлеба і збанок з вадою.

Усяслаў страшэнна пакутаваў ад знявагі і здзекаў. Ён баяўся, што сыны так і памруць, не ўбачыўшы болей сонца. Але трое палачанаў з роду Рагвалода мужна трывалі голад і холад. Ім дапамагала думка пра Бацькаўшчыну. Князь і ягоныя сыны ведалі, што іх чакаюць на радзіме.

У той час на кіеўскую зямлю напалі качэўнікі-полаўцы. Войска князя Ізяслава было разбіта. У Кіеве пачалося народнае паўстанне. Людзі патрабавалі зброі і коней, каб самім ісці супроць полаўцаў.

Ізяслаў пабаяўся, што перад гэтым кіяне расквітаюцца з ім. Ён уцёк, а паўстанцы вызвалілі Усяслава Чарадзея і абвясцілі яго сваім князем.

Полацкі ўладар не збіраўся надоўга затрымлівацца ў чужым горадзе. Ён вярнуўся дадому і праз некалькі гадоў вызваліў беларускую дзяржаву ад захопнікаў.

***(працяг будзе)***

***Задача чытачу***

**Сябры! Прапануем Вашай увазе конкурс.**

Вашай задачай будзе размаляваць у выглядзе комікса гісторыю князя Усяслава Чарадзея. Самыя цікавыя малюнкі надрукуем, а аўтары атрымаюць узнагароды — каляровыя алоўкі. Усіх зацікаўленых конкурсам просім дасылаць працы на працягу трох тыдняў.

ЗОРКА



***На дажынках у Рыбалах.*** *Ах, той вецер! Але праграму адтанцуем, адспяваем да канца, нічога, што мы з „нулявога" класа!* Фота Міры ЛУКШЫ

Змітро БЯСПАЛЫ

## Як ваўка ашукалі

*(казка)*

У аднаго селяніна, які жыў каля Сіняга лесу, быў вялікі хлеў. У тым хляве ён трымаў карову, быка, авечак, курэй і гусей. Спакойна гаспадарыў круглы год, летам і зімою. Ды вось у лесе, недалёка ад сядзібы, завёўся Воўк Шэры Бок. Вечна галодны, як і ўсе ваўкі, надумаўся ён украсці ў селяніна Быка. Пракраўся да хлява, прагнымі вачамі зыркае, прынюхваецца. Але трапіўся яму не Бык, а Певень — ён у смецці гробся.

Воўк Шэры Бок шырока разявіў пашчу, каб напалохаць Пеўня, і сказаў:

— Я цябе з'ем!

— Каго ты хочаш з'есці? Мяне, Пеўня? Зірні на мае ногі, на кіпцюры-шпоры. Бачыш, яны цвёрдыя, вострыя. З'ясі — будзеш усё жыццё мучыцца. Лепш я прышлю табе Гусака. Ён большы за мяне. Прыходзь заўтра такой парою...

Паслухаўся Воўк Шэры Бок Пеўня і пабег у лес. А назаўтра зноў паспяшаўся да хлява. Пракраўся праз сад-агарод, высунуў галаву з-за вугла і ўбачыў вялікага белага Гусака. Каб нагнаць на яго страху, разявіў зубастую пашчу і грозна сказаў:

— Я цябе з'ем!

— Каго ты хочаш з'есці? Мяне, Гусака? На мне пер'я больш, чым мяса. Пер'ем рот заб'еш і не праглынеш. Лепш я прышлю табе Барана. Ён большы за мяне, смачнейшы. Прыходзь заўтра такой парою...

Воўк Шэры Бок аж падскочыў ад радасці, аблізнуўся, бо ён бараніну дужа любіў. Галодны, але шчаслівы вярнуўся ў лес. А назаўтра, дачакаўшыся прыцемкаў, паспяшаўся да хлява. Глядзіць — няма Барана. „Няўжо зманіў Гусак? — нядобра падумаў Воўк Шэры Бок. — Лепш бы я яго з'еў!" І ў гэты момант з-за хлява выйшаў Баран з вялікімі кручанымі рагамі на галаве.

— Я цябе з'ем! — ашчэрыўся Воўк Шэры Бок.

— Каго ты хочаш з'есці? Мяне, Барана? Паглядзі, якія цвёрдыя ро- ☞

„ЗОРКА" № 40
03.10.1999

Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ

## Кастрычнік

Кастрычнік барваю
Прыбраў
Дубы, асіны
І рабінкі;
Лісты ён з дрэў
Параскідаў
На ўзлескі,
Вузкія сцяжынкі.
Хмурліва, зябка
Па начах,
Цярусіць дождж
Нібы праз сіта.
Пажоўклі травы
На палях,
І толькі
Зелянее жыта.
Ды часам
Выпадуць дзянькі...
Блакіт і сонца.
Ранак звонкі.
І разам з Янкам
Хлапчукі
Ідуць у лес
Збіраць зялёнкі.

## Загадкі

**1.** Сярод хаты
кусцік мяты
з дрэва зняты:
хістаецца,
матляецца
і ў куток хаваецца.
*(мятла)*

**2.** У чырвонай каморы
растуць белыя горы.
Паміж гор сабака брэша
і бакі аб сцены чэша.
*(рот, зубы, язык)*

**3.** Круглае, малое,
у радасць сухое,
а ў крыўду-бяду
пускае ваду.
*(пчолы)*

**4.** Шэрае сукно
лезе праз акно,
цемру праганяе,
хату асвятляе.
*(вока)*

Мажэна ЖМЕНЬКА

* * *

Згубленая...
Жамчужына на дне акіяна долі
Замкнутая ў клетцы боязі
Уцякае перад светам у глыб сябе
Дзесьці далёка...
У гушчары цішы шукае кроплі надзеі
І не можа яе знайсці
Як белы лісток сярод тысячы кніг
Схопленая вадаспадам мар
Не зможа дакрануцца да зямлі

## Польска-беларуская крыжаванка № 40

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | | ▼ | | | Kwit | Rzeka | ▼ | Kurz / Artysta | ▶ | ▼ | |
| Niewola | Imię chińskie / Adres | | Zamek | Krym ▶ / Anoda | ▼ | ▼ | | ▼ | Mgnienie | | Ikona / Białko |
| | ▼ | Zasówka ▶ / Ryba | ▼ | ▼ | | | | | Ob ▶ / Ort | | ▼ |
| Placek ziemniaczany ▶ | | ▼ | | | | | Śpioch ▶ | | ▼ | | |
| ▶ | | | | | | | Trawl ▶ | | | | |
| Senność / Otok ▶ | | | | | | | | | | | |
| Sak ▶ | | | | Krzyk ▶ | | | | | Jak ▶ | | |

гі, не перажуеш і не праглынеш. Ды і косці мае старыя — зубы паломіш. Лепш я прышлю табе Быка. Прыходзь заўтра такою парою...

Воўк Шэры Бок усё жыццё марыў з'есці Быка. І — на табе! — такая ўдача. Прыбег у лес. Чакаў, не мог дачакацца, пакуль скончыцца ноч, пройдзе дзень. Вечарам, яшчэ повідну, прakраўся да хлява і, убачыўшы Быка, кінуўся да яго:

— Я цябе з'ем!

— Пачакай, не спяшайся, — спыніў яго Бык. — Я ведаю, ты вельмі галодны. Можаш цалкам мяне праглынуць. Толькі гэта няпроста зрабіць: вялікі я, рагаты — падавішся. Вось і хачу табе дапамагчы, каб не мучыўся. Ты, воўча, як мага шырэй разяўляй пашчу, а я разбягуся і сам з разгону ў тваім жываце апынуся...

Воўк Шэры Бок рад старацца. Упёрся лапамі ў зямлю, разявіў пашчу, як ніколі яшчэ не разяўляў, стаіць, чакае. А Бык адышоўся ад Ваўка ды як ірванецца з месца, ды як замукае: „Мы-ы-ы... мы цябе правучым!" З вялікага разгону так баднуў Ваўка рагамі, шырокім ілбом, што ў таго і косці затрашчалі. Адляцеў ён ад хлява метраў на дзесяць, а мо і далей, грымнуўся вобзем. Падхапіўся потым — і наўцёкі. Толькі каля лесу азірнуўся, ці не даганяе яго Бык.

Прыбег Воўк Шэры Бок у Сіні лес, упаў і ляжыць, пабіты і галодны. А як трохі аддыхаўся, пашкадаваў, што не з'еў Пеўня, бо ўсё гэта праз яго выйшла.

## Магічныя стражнікі мясцін

**Шэрая, запыленая дарога. Жара. Палудзень. Ля невялікага магазіна стаіць група людзей. Хаваюцца пад цяністымі дрэвамі ад спякоты. Ужо здалёк я заўважыла тры крыжы. Хачу пра іх з некім пагаварыць, на жаль, безвынікова. Ухілістыя, неканкрэтныя адказы, словы без значэння. Людзі са Старыны не любяць гаварыць пра ўсё. Ужо раней пра гэта я ведала**

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Іду далей. Некалькі паваротаў, лес. І зноў — крыжы. На гэты раз іх больш. Гляджу на іх з цікавасцю. Мабыць, яны старыя. Драўляныя або каменныя, аздобленыя белымі стужкамі. На кожным з іх дзіўныя надпісы, хіба на беларускай мове. Гэта праваслаўныя крыжы. Паказвае на гэта перакладзіна — сімвал пекла і неба. Яны адгароджаныя ад дарогі невялікім плотам. Каб чагосьці пра іх даведацца, іду ў найбліжэйшую хату. Пашанцавала мне пагутарыць з амаль васьмідзесяцігадовым жыхарам дома.

**Адкуль крыжы?**

— Крыжы заўсёды тут стаялі, — кажа старажыл. — Ставілі іх усе жыхары вёскі або паасобныя людзі. Калі ў нашай ваколіцы панавала пошасць, жанчыны за адзін дзень былі вымушаны саткаць ручнік, які сваім абсягам абдымаў усю вёску у тры разы. У гэты дзень ніхто з вяскоўцаў не еў і не піў. Мужчыны будавалі крыж. У выкап пад крыж клалі ручнік, на ім узводзілі крыж. Толькі тады вёска была бяспечная.

Іншы крыж жыхары Старыны паставілі, каб засцерагчыся ад пажару. З чарговым крыжам павязана таямнічае здарэнне, якое ў 1942 годзе наведала вёску, калі тут былі замардаваны чатыры асобы. Дзве з іх павесілі, дзве расстралялі. На гэтых *тэрэнах* дзейнічала тады партызанка, да якой належаў родны брат майго субяседніка. Да змагароў далучыўся адзін бандэравец. Ён быў нямецкім шпіёнам. Запісаў ён прозвішчы „сяброў" і выдаў іх. Некаторым пашчасцілася ўцячы. Пасля вайны людзі адпраўлялі паніхіду ў памяць загінуўшых. У іх гонар паставілі крыж, каб такія гісторыі ўжо не паўтараліся.

**Стужкі**

А што зараз адпраўляецца ля крыжоў?

Тыдзень пасля Вялікадня, у нядзелю, калі жыхары наведваюць магілы родных, жанчыны прыўкрашваюць крыжы каляровымі стужкамі: блакітнымі, зялёнымі, аранжавымі і белымі. У такі спосаб адзначаецца памяць пра памерлых. Апрача гэтага існуе яшчэ іншы абрад звязаны з хаўтурамі. Калі нехта памрэ, *выводзяць* яго з хаты ў напрамку крыжа і там адпраўляецца „апошняе развітанне". Пасля абраду памерлага нясуць на могілкі.

Крыжы — магічныя вартаўнікі мясцовасці. Таму сустракаем іх у пачатку і канцы (хаця не заўсёды) вёскі.

**Усё меншыя**

Прамінаючы час прыводзіць да таго, што драўніна памалу гніе. Тады абрэзваецца ніжнюю частку крыжа і таму яны ўсё меншаюць. Ёсць аднак выключэнне. У Старыне ёсць крыж, самы вялікі (каля Новай Старыны), якога ніколі яшчэ не падрэзвалі. Незвычайны выпадак. Калі ён павернецца, зломіцца або спарахнее, вёска паставіць новы. А стары, у прысутнасці ўсіх жыхароў, будзе спалены.

**Марлена НАЖЫКОЎСКАЯ,**
**Варшава,** *Газета „Inny świat"*
*(Starzyna 15-25 lipiec 1999 r.)*

## Вершы Віктара Шведа

### На стадыёне

На гарадскім стадыёне
Да бацькі звярнуўся Лёня:
— Ты адказаць мне павінен:
Куды ўсе бягуць мужчыны?

— Першы, сыночак, заўсёды
Бяжыць па ўзнагароду.
— Ну а другія дзе шпараць?
— Кожны з іх першым быць марыць.

### Не рашай задач — пагуляй у мяч

Бацьку з прэсы старонак
Надта здзівіў гэты факт:
На долараў пяць мільёнаў
Футбаліст падпісаў кантракт.

Звяртаецца раптам да сына:
— Перашкаджаю, прабач,
Карпееш над кнігай няспынна,
Лепш пагуляй крыху ў мяч.

# Блакітная рэспубліка



*Ян Жыдок, беларускі ветэран-мільянер.*

**5. Цецяроўка**

Пасля свіслацкіх турыстычных атракцыёнаў хацелася спаць. Мястэчка заразіла нас нядобрым спакоем. Асавелыя і сумныя заязджалі мы ў Цецяроўку, дзе наша спадарожніца, доктар Лена Глагоўская, мае дачу. Прапанова заначаваць у вёсцы паказалася незвычайна цікавай. Цецяроўка распалажана ў памежнай зоне. Адсюль, калі выйдзеш за вёску і станеш на найвышэйшы ўзгорак, відаць вёскі на польскім баку: Баброўнікі, Коматаўцы, Ярылаўку. Апошняя з іх — родная вёска Лены. Дача ў Беларусі дасталася нашай Лене ў выніку наследства па роднай цётцы. Цецяроўка цалкам нагадвае састарэлыя вёскі Беласточчыны. У пачатку мясціны бачым праваслаўны крыж, аздоблены пластмасавымі кветкамі. Далей па абодвух баках вузкай вуліцы ідзе шчыльная драўляная забудова з шчытамі ад фронту. Едучы асфальтаванай вуліцай мінаем магазін, драўляныя хаткі з блакітнымі рамамі акон, белую мураванку, абазначаную як *дом узорнага парадку*, мініяцюрныя хлеўчукі і стадолкі на кароткіх панадворках, хатку ветэрана вайны з чырвонай зоркай. У канцы відаць і калгас, месца працы ўсіх жыхароў Цецяроўкі. Выгляд калгаса таксама мізэрны: аборы, бляшаныя буданы, стагі з саломай, калгаснікі ў зашмальцаваным адзенні, пустазелле...

Разам з Ленай наведваем яе сваячку, якая даглядае дачу.

— Скажыце, чаму ў хаце прапала свято?

— Старшыня загадаў, — кажа бабуля. — Трэба цяпер да яго схадзіць, папрасіць, каб назад электрычнасць уключылі. (Беларускія сяляне не плацяць за святло).

У Цецяроўцы ўсё залежыць ад старшыні калгаса. Так прынамсі думае тыповы калгаснік. Бабуля абдароўвае нас кашом бульбы. Каб пачаставаць мяне добрым словам, старэча прыдумоўвае прапанову:

— А можа цябе ў нас замуж выдамо?!

Аказваецца, мясцовыя кавалеры маюць такія ж праблемы, што і нашы хлопцы з Падляшша.

— Адна мая дачка за ўкраінцам. Медсястра. На Украіне жыве, — кажа Ян Жыдок, найбагацейшы пенсіянер у вёсцы. — Другая, бухгалтарка, у Калінінградзе. Гэтай не надта пашанцавала, бо калхоз, дзе раней працавала, раскінулі і цяпер з гаспадаркі жыве.

Сам Ян Жыдок з Коматаўцаў. На драўлянай хатцы пенсіянера значок — чырвоная зорка. Так у Беларусі абазначаны дамы ветэранаў вайны. Дзядзька атрымоўвае 20 мільёнаў рублёў пенсіі (35-40 долараў), што на мясцовыя ўмовы надта многа.

— Але што з гэтага, — кажа. — Жонка захварэла, няма дзе ратунку шукаць.

Распытваю яго, як трапіў у Цецяроўку.

— У 1944 годзе на фронт саветы ўзялі. Ваяваў у Фінляндыі, вызваляў Гданьск, быў у Берліне. Пасля, калі вайна закончылася, у Савецкі Саюз вярнулі. Калі адпусцілі дамоў, родную вёску Коматаўцы аддзяляла граніца. Астаўся тады ў Цецяроўцы, ажаніўся, абзавёўся сям'ёй, працаваў у калгасе. Найбольш падабалася як пастухом працаваў, кароў пасвіў.

Ян Жыдок успамінае польскую школу ў Галынцы. Як за добрыя вынікі ў навуцы настаўнік яго з сябрамі на легкавой машыне ў Варшаву завёз.

— Брат мой у Беластоку жыве, — адзначае мой субяседнік. — Ажаніўся, польскую веру прыняў і як паляк сабе жыве.

Добра, значыць, сабе пажывае. У Цецяроўцы, як і ў нас, бабулі выбіваюць сваім унукам з галавы беларускую мову.

Ідучы вуліцай, я пачула як старэча на нейкай дзіўнай расейшчыне заклікала ўнучку ў хату. Раней не чулі мы тут рускай мовы. Усе сустрэтыя вяскоўцы размаўлялі на чысценькай беларускай мове. Праўда, былі гэта пажылыя жыхары Цецяроўкі. А вясковая моладзь? У Цецяроўцы сустрэлі мы адно маладых калгаснікаў, якія блакітнымі трактарамі вазілі гной. Гарадскі ўнучак нашых суседзяў безупынна слухаў *папсу*, заменнік польскага disco-polo.

*Не ругайся, моя мама,*
*Не суди меня, судьба...*

хрыпеў з гукаўзмацняльніка саліст — кумір нашага суседа. Усе яго песні былі пра выпіўку і яе паслядоўнасці.

* * *

На зялёным, няскошаным панадворку запальваем вогнішча. Над галавой жнівеньскае зорнае неба і месяц у поўні. Спрыяльная атмасфера для ўспамінаў, расказаў...

— Як твая цётка папала ў Цецяроўку? — пытаем Лену Глагоўскую.

— Было гэта пасля вайны, калі Ярылаўка знаходзілася ў межах БССР. Цётка Лена (наша спадарожніца ў яе гонар атрымала такое ж імя) працавала на перагрузачным пункце ў Галынцы. З-за невядомай па сённяшні дзень прычыны адправілі яе, дачку польскага падафіцэра, у Кемераўскую вобласць. Тры гады без прыгавору пабывала яна ў сібірскай ссылцы. І калі ў 1949 годзе вярталася дамоў, Ярылаўка была ўжо на польскім баку. Спынілася тады ў сваёй сяброўкі ў Цецяроўцы. Пазней выйшла тут замуж. Тут працавала ў недалёкім пасёлку Пагранічны на чыгунцы.

— Чаму не старалася выехаць у Польшчу, да сям'і?

— Баялася.

***(працяг будзе)***

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Фэст у Ласінцы



*Выступае „Гарадніца" з Гродна.*

У сонечны, але халаднаваты і ветраны нядзельны дзень 19 верасня адбыўся беларускі народны фэст у Ласінцы, арганізаваны ГП БГКТ і салэцтвам вёскі.

Фэст адкрыў солтыс Ласінкі Міхась Паскробка, які паведаміў, што фэст праводзіцца па ініцыятыве пасла Сейма, ураджэнца Ласінкі, Сяргея Плевы.

Ян Сычэўскі, пасол Сейма і адначасова старшыня ГП БГКТ падкрэсліў, што Сяргей Плева не толькі ініцыятар, але і галоўны спонсар фэсту. Прывітаў ён, між іншым, консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалая Крэчку з жонкай, старасту Гайнаўскага павета Уладзіміра Пятрочука з жонкаю, святара прыхода ў Ласінцы а. Георгія Коса з матушкай Алінай.

Першым выступіў народны ансамбль песні і танца „Гарадніца" з Гародні, пад мастацкім кіраўніцтвам Алеся Лойкі. Пяць маладых жанчын-спявачак, у суправаджэнні трох акардэаністаў, бубнача, скрыпачкі і цымбалісткі прыгожа праспявалі некалькі вядомых і на Беласточчыне беларускіх народных песень, а сышоўшы са сцэны, пратанцавалі на зялёнай мураве з імпэтам беларускую польку. Затым выступіў мясцовы дзіцячы хор „Лісічкі" пад мастацкім кіраўніцтвам матушкі Аліны Кос. Прыгожа апранутыя ў беларускія народныя касцюмы дзяўчынкі з рознакаляровымі вяночкамі на галоўках прыгожа праспявалі некалькі беларускіх дзіцячых народных песень.

Чаргова выступілі „Цаглінкі" з Ляўкова Старога, пад кіраўніцтвам Мікалая Мяжэннага з Гародні і эстрадны калектыў „Казанова" з Беластока, якому лідзіруе Януш Усціновіч.

Сямейны дуэт Алесь і Зоя Лойкі з Гародні прыгожа выканаў песню гродзенскага кампазітара Аляксандра Шыдлоўскага „Колькі ў небе зор".

Выступілі таксама „Чыжавяне" з Чыжоў і эстрадны калектыў „Капры". Варта прыгадаць што эстрадныя калектывы „Казанова" і „Капры" ігралі ўвечары ў Ласінцы на танцавальнай вечарыне. Канцэрт завяршыўся выступленнем гродзенскай „Гарадніцы". Калектыў выканаў, між іншым, песню „Каліна", запісаную Алесем Лойкам у вёсцы Тыневічы. Яну Сычэўскаму спявачкі прысвяцілі песню „Ехаў Ясь на кані". Апрача гэтага калектыў „Гарадніца" выступіў таксама ў Нарве і Трасцянцы.

Развітваючыся з публікай Валянціна Ляскевіч падзякавала ўсім за ўдзел у мерапрыемстве, а Сяргею Плеву, солтысу Міхасю Паскробку, дырэктару мясцовай школы Веры Дудзіч і Але Сяткоўскай, дырэктару Нарваўскага асяродка культуры — за падрыхтоўку і правядзенне фэсту.

На фэсце прадаваліся касеты з песнямі беларускіх мастацкіх калектываў Беласточчыны, свае кніжкі падпісвалі „белавежцы" Янка Целушэцкі і Віктар Швед.

Арганізатары фэсту, члены мастацкіх калектываў і госці былі запрошаны солтысам Ласінкі на супольную вячэру.

**В. Ш.**

*Фота Янкі Целушэцкага*

# Прыбіранне свету

Ужо шосты год наша краіна ўдзельнічае ў экалагічным мерапрыемстве „Прыбіранне свету". У гэтым годзе праходзіла яно ад 17 па 19 верасня.

Найбольш у акцыю ўключылася школьная моладзь. У Чаромхаўскай гміне, напрыклад, 16 верасня 58 вучняў у супрацоўніцтве з Бельскім надлясніцтвам (прысутнічала 9 работнікаў) сабрала на васьмі гектарах каля 8 тон смецця. Транспартам забяспечыла надлясніцтва і гмінная камунальная гаспадарка. Прыбіраліся пабочныя дарог і навакольны лес. Пасля зборкі смецця надлясніцтва арганізавала ўдзельнікам вогнішча з гарачай каўбаскай.

Сёлета экалагічныя арганізацыі арыентаваліся на збіранне шклатары, сыравіны для гутаў. За адну тону шкляной упакоўкі можна было атрымаць нават 200 зл. Шкада, што ў нашым асяроддзі таго не прыкмячаецца, а мноства парожніх бутэлек валяецца навокал. А чаму б так не заняцца нашым гандлярам наштодзень скупкай парожняй пасуды? **(ус)**

# Інстытут праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы


Падпісанне заснавальніцкага акта Інстытута. У цэнтры — мітрапаліт Сава.

Адкрыццё Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры пры Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, спалучанае са з'ездам святароў Варшаўска-Бельскай епархіі, адбылося 10 верасня г.г. у дзень ушанавання памяці заступніка епархіі прападобнага Іава Пачаеўскага.

Святкаванні пачаліся Літургіяй, якую ў саслужэнні Бельскага епіскапа Грыгорыя ўзначаліў мітрапаліт Сава. Пасля адслужаны быў малебен з нагоды свята прападобнага Іава Пачаеўскага і адбылося асвячэнне памяшканняў Інстытута. У ніжняй царкве сабора з мітрапалітам Савам і епіскапам Грыгорыем сустрэліся святары, члены праваслаўных брацтваў, улады і жыхары Гайнаўшчыны.

Ад імя гаспадароў прысутных прывітаў дэкан айцец Міхаіл Негярэвіч. Расказаў ён, што арганізацыйная работа Інстытута пачалася ўжо з 1 жніўня г.г. Рэзультатам першых прац з'яўляецца план дзейнасці і адрамантаваныя памяшканні, у якіх будуць адбывацца сустрэчы.

Мітрапаліт Сава засяродзіўся на характары дзейнасці Інстытута. Падобныя ўстановы будуць працаваць таксама ў Бельску-Падляшскім і Сямятычах.

— Усе Інстытуты будуць прапагандаваць праваслаўныя ідэі ў нашым грубіянскім свеце. Мы, праваслаўныя, тут не госці, а жывём ад вякоў. Наша зямля, а на ёй крыжы, магілы і цэрквы сведчаць аб духовым багацці нашых продкаў. Гэта ўся наша гісторыя і культура, якую трэба ўшаноўваць. Трэба будзе памагаць маладым, бо калі яны будуць уміраць духова, то і мы таксама, — гаварыў мітрапаліт Сава. Уладыка заклікаў, каб нацыянальныя арганізацыі таксама ўключыліся ў супрацоўніцтва з Інстытутам.


Прадстаўнікі ўлад абяцалі дапамогу. Злева: старшыня Гарадской рады Яўген Сачко, староста Уладзімір Пятрочук, бурмістр Анатоль Ахрыцюк і старшыня Рады Гайнаўскага павета Вольга Рыгаровіч.

Прадстаўнікі ўлад павета і гміны Гайнаўкі ў сваіх выступленнях абяцалі сваю дапамогу ў працы Інстытута.

— Я вельмі рады, што прымаю ўдзел у сённяшніх святкаваннях. На падставе сваёй сям'і і знаёмых бачу, што праваслаўная рэлігія з'яўляецца тым, што вельмі моцна аб'ядноўвае грамадства. Думаю, што Інстытут культуры ў Гайнаўцы будзе інтэграваць жыхароў Гайнаўскай зямлі. Ад сябе і ўлад Гайнаўскага павета, горада і Гайнаўскай гміны заяўляю, што будзем памагаць, калі будзе такая патрэба і супрацоўнічаць з Інстытутам, — абяцаў староста Уладзімір Пятрочук.

Кіраўнік Інстытута айцец Славамір Хвойка гаварыў пра планы дзейнасці гэтай установы:

— Будзем знаёміць моладзь з гісторыяй Царквы і сваёй нацыі, арганізаваць паездкі па месцах памяці звязаных з праваслаўем. Хочам уключыць у дзейнасць таксама і дарослых. Людзей трэба яшчэ многаму вучыць наконт царкоўнага жыцця і багаслужэнняў. Хочам, каб жыццё Царквы не абмяжоўвалася толькі да яе агароджы, але выходзіла за яе. Інстытут будзе каардынаваць працу праваслаўных брацтваў і прадстаўнікоў прыходаў Гайнаўскага благачыння.

Бельскі епіскап Грыгорый пажадаў, каб Інстытут навучаў усіх праваслаўных і даваў усё, што неабходнае ў жыцці кожнага чалавека. На заканчэнне сустрэчы спяваў маладзёжны хор Свята-Троіцкага сабора.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Праваслаўная рэлігія ў школе

У снежні мінулага года сабор праваслаўных епіскапаў у Польшчы, разглядаючы праблемы навучання праваслаўнай рэлігіі, прыйшоў да вываду, што патрэбны каардынатар да спраў удасканальвання настаўнікаў закону Божага пры мітрапаліце ў Варшаве.

Сабор даручыў гэту функцыю доктару педагагічных навук Яну Зенюку (на здымку), ад'юнкту Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі і Праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Варшаве.

Калі мне даручылі гэту функцыю, сказаў нам д-р Ян Зенюк, я пачаў думаць, як падрыхтаваць новы навучальны год 1999/2000, улічваючы змены, якія адбываюцца ў польскай рэчаіснасці.

Я запрапанаваў мітрапаліту, каб пачатак школьнага года і яго заканчэнне адбываліся з удзелам епіскапаў з епархіі і настаўнікаў закону Божага. Каб гэта былі свайго роду ўрачыстыя сустрэчы. У пачатку навучальнага года павінны быць абмеркаваны заданні, якія іх чакаюць у галіне навучання праваслаўнай рэлігіі, а на канец года падсумавана гадавая праца, прычым неабходна звяртаць увагу не толькі на поспехі, але і недахопы. Вельмі важна было б пры гэтым абмеркаваць, што можна зрабіць у час летняга адпачынку моладзі.

Такія інаўгурацыйныя сустрэчы з удзелам мітрапаліта ўжо адбыліся ў Бельску, Гайнаўцы, Сямятычах. У Беластоку адбылася сустрэча з удзелам уладыкі Іакава, а ў Вроцлаве прысутнічаў на ёй уладыка Іерамія, паведаміў нам д-р Ян Зенюк, які быў на ўсіх гэтых сустрэчах. Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел метадычныя дарадчыкі навучання закону Божага. Усе сустрэчы праводзіліся з Літургіяй.

Я на гэтыя сустрэчы не ездзіў з пустымі рукамі, кажа д-р Ян Зенюк. Там я выступаў з дакладам: „Заданні праваслаўнай катэхезы ў новым навучальным годзе ва ўмовах рэфармаванай сістэмы адукацыі".

Новы школьны год мае гістарычнае значэнне. Мінае якраз дзесяты год навучання рэлігіі ў школе і стаім мы на парозе трэцяга тысячагоддзя хрысціянства. А да таго ўсяго распачынаем навучанне рэлігіі ў рэфармаванай сістэме адукацыі.

У новай сістэме інтэграванага і блокавага (а не прадметнага) навучання ў падставовай школе вельмі важна, каб настаўнікі, якія вядуць заняткі ў блоках, улічвалі мясцовую — праваслаўную і беларускую — праблематыку.

Рэформа прадугледжвае, што будуць улічвацца магчымасці і здольнасці вучня. Не столькі трэба будзе дастасоўваць яго да праграмы, колькі праграму дастасоўваць да яго. Каб зацікавіць дзіця. Адным словам, уваходзіць у жыццё індывідуалізацыя навучання. Вядома, гэта вымагае аграмаднай працы ад усіх настаўнікаў, у тым ліку і закону Божага. Не кожнае дзіця прыходзіць у школу аднолькава асвядомленае і падрыхтаванае ў справах праваслаўнай рэлігіі.



Пры ўсіх гэтых зменах у сістэме адукацыі расце роля самаадукацыі настаўнікаў у галіне псіхалагічна-педагагічнай. Тым больш, што ўваходзіць у жыццё новая сістэма ацэнкі вучняў. Ацэнка мае яму дапамагаць у яго развіцці. Таму трэба імкнуцца да таго, каб лепш ведаць сваіх вучняў.

Змены ў асвеце, гаворыць д-р Ян Зенюк, прымусілі нас арганізаваць сістэму ўдасканальвання настаўнікаў праваслаўнай рэлігіі. Яны могуць павышаць свае кваліфікацыі на Кафедры праваслаўнай тэалогіі Універсітэта ў Беластоку і ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве. Сёлета ў Беластоку падало заяўкі каля 100 чалавек. Заняткі, якія вядзе універсітэт, адбываюцца ў кожны панядзелак ад 8-ай да 18-ай гадзіны ў Цэнтры праваслаўнай культуры.

Камісія, назначаная саборам епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (а. прат. Юры Тафілюк — старшыня, а. прат. Міраслаў Драбюк, а. Міраслаў Філіманюк, д-р Ян Зенюк, д-р Юры Кузьмюк, мгр Галіна Баравік), падрыхтавала ўжо новыя праграмы навучання праваслаўнай рэлігіі ў падставовай школе (у нулявым класе і I-VI) і ў гімназіі (класы I-III). Сіняя і зялёная кніжыцы ўжо выдадзены і з'яўляюцца вялікай дапамогай для настаўнікаў закону Божага. Рыхтуецца трэцяя, ружовая кніжыца з праграмай навучання праваслаўнай рэлігіі ў ліцэях.

Ёсць і першы падручнік (для V класа падставовай школы). Называецца ён „W cerkwi prawosławnej", а аўтарам яго з'яўляецца Галіна Баравік, выпускніца Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі і Варшаўскага універсітэта, дзе штудзіравала рускую і беларускую мовы. Кніжку выдала парафія св. Ілы ў Дайлідах.

Цяпер рыхтуюцца два наступныя падручнікі: для I і III класаў. Падручнікі — незвычайна важная справа ў навучанні праваслаўнай рэлігіі.

У новым навучальным годзе для вучняў адбудзецца не толькі турнір чытання царкоўнаславянскіх тэкстаў, які будзе праходзіць ужо чацвёрты раз. Упершыню запланаваны агульнапольскі фатаграфічны конкурс „Сакральнае праваслаўнае мастацтва", мэтай якога мае быць рэгістрацыя помнікаў праваслаўнай культуры, падзей, звязаных з рэлігійным жыццём. Таксама першы раз пройдзе сёлета алімпіяда праваслаўных рэлігійных ведаў. Лаўрэаты яе без экзаменаў будуць прыняты ў ХТА, семінарыю ці ва Універсітэт у Беластоку (на тэалогію).

Увялі мы шмат новага, каб павысіць узровень навучання праваслаўнай рэлігіі, сказаў нам на заканчэнне д-р Ян Зенюк.

**Натавала Ада Чачуга**
*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Нарадзілася я нанава

**Сэрца — цэнтральны орган кровазвароту, які забяспечвае беспераразрыўны рух крыві па сасудах крывяноснай сістэмы ў целе чалавека. Парок сэрца ці іншыя яго хваробы — смяротная пагроза жыццю. Адзіным тады ратункам з'яўляецца трансплантацыя сэрца — адно з самых вялікіх дасягненняў сучаснай медыцыны.**



*Анна Ладняк з мужам і дачушкай.*

Анна Ладняк — 22-гадовая жыхарка Бельска-Падляшскага — гэта другая ў Польшчы жанчына, якая пасля перасадкі сэрца нарадзіла дзіця. Была б яна поўнасцю шчаслівай жонкай і маці, калі б у бальніцы не прышчапілі ёй вірусаў гепатыту (жаўтухі). А гэтую хваробу зараз у жанчыны лячыць нельга, бо можа дайсці да адарвання трансплантанта — перасаджанага сэрца.

**Чаканне донара**

Ад пароку сэрца Аня пакутавала ад нараджэння. Стан яе здароўя моцна пагоршыўся, калі была вучаніцай старэйшых класаў пачатковай школы. Адзіным ратункам была перасадка сэрца. Тады такую складаную аперацыю рабіў толькі прафесар Збігнеў Рэліга з Забжа. Донара другога сэрца давялося Ані чакаць два гады. За першым разам не дайшло да аперацыі, бо акурат выехалі яны з мамай у Беласток і калі знайшлі іх па радыё ды завезлі ў Забжа, сэрца ўжо было непрыгоднае для перасадкі. Трэба было зноў чакаць. Год пасля, 27 снежня 1992 г. выклікалі іх другі раз. Хуткая дапамога неадкладна завезла Аню з мамай у Варшаву, а адсюль самалётам паляцелі яны ў Забжа, разам з прафесарам Рэлігам.

**У забжанскай клініцы**

Перасадка сэрца працягвалася шэсць гадзін. Аня не баялася аперацыі. Больш хвалявалася ейная мама, Вера, і гэта яе дачка супакойвала перад аперацыяй.

— Я ніколі не думала, што памру і верыла, што жыць буду, — прызнаецца Аня. — Пасля абуджэння ад наркозу я адчувала сябе зусім добра. Аднак тыдзень пазней стала мне вельмі кепска, моцна балела ўсярэдзіне. Лекары нервова завіхаліся вакол мяне, а я не ведала, што дзеецца. Гэта быў унутраны крывацёк. Зноў складаная аперацыя і доўгае ачуньванне.

**Вяртанне ў школу**

Пасля паўгадовай пабыўкі ў клініцы Аня з новым ужо сэрцам вярнулася дадому. Вучылася ў першым класе Эканамічнага ліцэя і трэба было нагнаць страчаны час. Вучылася, многа шпацыравала, наведвала дыскатэкі, танцавала. „Я амаль не адчувала стомы", — кажа Аня і дадае, што верыць у выздараўленне дапамагаюць ёй штогадовыя сустрэчы з членамі Таварыства трансплантацыі сэрца ў Варшаве, а сёлета — у Калабжэгу. У школе настаўнікі ставіліся да Ані з увагай. Непасрэдна перад экзаменам на атэстат сталасці дзяўчына трапіла ў бальніцу. І хаця на падрыхтоўку да экзаменаў засталося нямнога часу, матуру здала паспяхова.

**Няшчасныя вірусы**

Падчас кантрольнага медыцынскага абследавання ў 1994 годзе лекары выявілі ў Ані інфекцыю вірусамі гепатыту B і C і пашкоджанне печані. Лячэнне гэтай хваробы даволі маруднае, а прымяненне антывірусных лякарстваў магло б прывесці да адарвання перасаджанага сэрца. Трэба было абмежавацца толькі да лякарстваў, якія папраўляюць функцыянаванне печані, і спецыяльнай дыеты.

**Любоў**

— З будучым мужам пазнаёмілася я даўно, — смяецца Аня. — Ён — найлепшы калега майго брата Слаўка і часта заходзіў у наш дом у Відаве. Пасля аперацыі я баялася, што ніводзін хлопец не захоча сябраваць са мною.

— Аня імпанавала мне сваім стаўленнем да жыцця, упартасцю, вялікім аптымізмам, хаця ў сваім жыцці стольк і папакутавала, — адзываецца з павагай Пётр. — Мы праводзілі разам многа часу, а калі сур'ёзна сталі думаць пра супольную будучыню, амаль не расставаліся. Калі я пашкодзіў нагу, Аня наведвала мяне ў бальніцы штодзённа. Паўгода пасля заручын — 12 верасня 1998 года — мы ўзялі шлюб. Аказалася, шо Аня першая з ліку сваіх сяброўак выйшла замуж.

Маладажоны жывуць у бацькоў Пятра, якія пакахалі Аню як родную дачку, а цешча нават не дазваляе Ані прыбіраць дом.

**Рашыла нарадзіць дзіця**

— Калі два месяцы пазней нявестка зацяжарыла, беластоцкія спецыялісты прадказалі найгоршае і не хацелі апекавацца ёю, — кажа Іаанна Ладняк. — Але забжанскія лекары згадзіліся, аднак ездзіць цягнікам у Забжа было далекавата. Хацелася нам бліжэй, у Беласток.

— Я нават не падумала, каб спыняць цяжарнасць, — успамінае Аня. — Я вельмі хацела нарадзіць дзіця, верыла, што калі перажыла трансплантацыю, маё жыццё пойдзе ўжо звычайнай каляёй. Трэба было мне толькі падпісаць заяву, што рызыку бяру на сябе. Пасля гэтага 6 лютага г.г. я апынулася на аддзяленні паталогіі цяжарнасці ў Беластоцкай клініцы. Муж прыязджаў у шпіталь пяць разоў у тыдзень і падтрымоўваў мяне на духу. Аднак пачала балець пячонка, пачалася атака жаўтухі. Я баялася, каб лекары не выкінулі дзіця, каб мае пакуты не былі дарэмнымі. Гэта было ў сёмым месяцы цяжарнасці і лекары вырашылі зрабіць кесарава сячэнне. Такім чынам 5 мая нарадзілася

**дачка Паўліна.**

Лекары не былі ўпэўнены ці дзіця будзе жыць. Важыла толькі 1300 грамаў і мела 42 см даўжыні. Дачушка неадкладна трапіла ў інкубатар, а маці — на інфекцыйнае аддзяленне. Два тыдні Аня ляжала пад кропельніцай. Ад болю не магла паварушыцца. Не магла пабачыць дачушку, нацешыцца ёю.

— Першым дачушку пабачыў муж і ён мне пра яе расказваў, — згадвае Аня. — Калі стан майго здароўя палепшыўся і я пабачыла дачку, шчасцю майму не было канца, я нават забыла пра боль. Пасля двух месяцаў мы абедзве маглі ўжо пакінуць шпіталь.

**Дома**

Месяц пасля вяртання са шпіталя Паўлінка важыць 3600 грамаў. У дзяўчынкі здаровае сэрца, але аслабленая печань. На шчасце лекары не выявілі ў яе вірусаў гепатыту. А маці застаецца яшчэ пад апекай беластоцкіх спецыялістаў. Вірусы гепатыту прышчапілі ёй у шпіталі падчас біёпсіі, але яна не хоча судзіцца з лекарамі, патрабаваць ад іх кампенсацыі. Жанчына цешыцца, што ў яе здаровае сэрца, марыць аб сваёй кватэры (жывуць яны цяпер у цесцяў, у пакоі 2 х 2,5 м) і займаецца дачушкай.

— Трэба выхаваць Паўлінку. Самае галоўнае — здароўе, але колькі можна жыць з вірусамі, невядома, — уздыхае Аня, тулячы да грудзей маленькую Паўлінку.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Вёскі Урублеўскіх

Пра Валерыя Урублеўскага ведаем галоўным чынам тое, што ён быў адным з галоўнакамандуючых Парыжскай камунай. Мо каму яшчэ вядома, што ён нейкі час жыў у Саколцы. Але нямногія ведаюць, што Валерый Урублеўскі бываў і на сённяшняй Гайнаўшчыне.

Бацька Валерыя, Антон, быў безмаянтковым шляхціцам і працаваў ляснічым у графа Тызенгаўза. Пазней стаў ён уладальнікам трох вёсак (людзі гавораць, што атрымаў іх ад цара): Тадэўшаў (сёння Звадзецкае), Пераходаў і Вераб'ёў (сёння Смаляны Садок). Сам Валерый з 1861 года працаваў у Саколцы інспектарам лясной школы, адначасна актыўна ўдзельнічаючы ў стварэнні нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі на Гродзеншчыне. Разам з Кастусём Каліноўскім рэдагаваў „Мужыцкую праўду", а ў 1863-64 гг. кіраваў паўстанцкімі атрадамі.

Адзін з баёў прайшоў і ў ягонага бацькі ў Вераб'ях. Побач, нейкіх 400 метраў ад сённяшняга Смалянога Садка, пралягала дарога, якую называлі Старым гасцінцам. Па дарозе гэтай, якая вяла з Ваўкавыска ў Бранск, быў калісь ехаў кароль Уладзіслаў Ягайла са сваёй жонкай Ядвігай і спыніліся яны былі на месцы сённяшняй Дубінскай Фермы на дванаццаць дзён. А Антон Урублеўскі пры той дарозе меў чатыры сажалкі і вінакурны завод каля Галяковай Шыі. І вось у будынку тае *gorzelni* і заперліся 280 паўстанцаў, праследуемыя казакамі. Сам жа Валерый схаваўся ў бацькавай хаце. Ён чуў, як казакі гаварылі: „Сукінага сына трэба злавіць і забіць, а то палячыла зноў будзе рабіць паўстанні". Казакі спалілі вінакурны завод разам з паўстанцамі, а самому Валерыю ўдалося ўцячы. Казакі злавілі адно жонку Валерыя, завязалі ёй вяроўку на шыю і зачапілі за галю. Яна стала пярдзець.

— Чаму не пярдзела, як мужа супраць нас высылала? — насміхаліся казакі. Сказалі яны ёй, што даруюць жыццё, калі яна пакажа, дзе Валерый прыхаваў зброю. І яна паказала дупло ў дубе, дзе былі дваццаць восем вінтовак.

Пазней Валерый выехаў у Францыю, а пасля паражэння Парыжскай камуны апынуўся ў Англіі, дзе пазнаёміўся з Карлам Марксам і Фрыдрыхам Энгельсам і стаў адным з заснавальнікаў І Інтэрнацыянала. У 1885 годзе, пасля амністыі, пераехаў ён у Парыж, дзе і памёр, а пахавалі яго на могілках Пер-Лашэз.

За ўдзел у Студзеньскім паўстанні Антону Урублеўскаму былі адабраны ягоныя ўладанні. Ягоны другі сын Віктар астаўся на тутэйшай зямлі і ад яго паходзяць мясцовыя Урублеўскія, а не ад Валерыя, у якога былі тры дачкі. Адну з іх маці выдала за Пуца ў Барысаўку, другую за Вапу ў Доўгі Брод, а трэцяя выйшла замуж у Пашкі (сёння частка Гайнаўкі); унучка або праўнучка апошняй выйшла замуж за Уладзіслава Юшкевіча, які пры Герку быў І сакратаром Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку.

* * *

У Звадзецкіх пражывае сёння каля дваццаці душ; жывуць тут Скепкі, Мікалаюкі, Лапацкія і Васілюкі. Большую актыўнасць праяўляе толькі адна сям'я. У Пераходах жыве 25 чалавек, амаль усе *рэнцісты*, толькі дваіх гаспадарыць, а ў іх ліку адзін паліцыянт. Сустракаюцца тут прозвішчы Яноўскі, Васілюк, Скепка, Урублеўскі.

У Смаляным Садку насустрач мне выбегла грамадка галышаватых дзяцей. У аднаго з іх цяжкі жоўта-зялёны смаргоjль намагаўся вырвацца з носа, аднак яго ўладальнік упарта вяртаў яго назад.

— Чаму не высмаркаешся? — спытаў я яго.

Хлопец замяўся і нічога не адказаў, уцягаючы сваю каштоўную слізь.

— Вазьмі ж ты выкінь гэтага смаркача! — загадаў я яму яшчэ раз.

Гэтым разам хлопец выкінуў свой скарб пад плот. Шасцёра дзетак мае тут адна ўдава. На жаль, гэта вынік адзінай формы яе ранейшай актыўнасці. Калі муж яе загінуў пасля барышу пад коламі самахода, не спраўляецца яна з жыццём. Гміна прыйшла ёй з дапамогай, дала ёй апякунку, а тая апякунка адно навучыла яе піць і курыць. Слівы побач дома падаюць на зямлю і гніюць, а яна нават іх не ўмее зварыць. Дзеці харчуюцца адно цукрам і хлебам ды мо яшчэ чым, калі хто літасцівы дасць.

Да аднаго з гаспадароў любіць заглянуць не чужы чытачам „Нівы" дыпламат. Віктар Бурскі бывае тут час ад часу, каб падыхаць родным яму пушчанскім паветрам.

**Аляксандр Вярбіцкі**



Каля вёскі Прыбудкі, што каля Ласінкі, пры дарозе ў Каралюкі расце раскідзісты дуб. Магутнае дрэва ўражвае сваім дастаенствам і выклікае адчуванне прысутнасці Трансцэндэнтнага. Хто толькі праязджае побач яго, спыняецца і праводзіць у радыусе яго ўздзеяння некалькі хвілін. Зроблена тут нямала сямейных здымкаў.

Спытаў я пажылую жанчыну, што жыве непадалёк дзівоснага дрэва, ці з дубам звязана мо нейкая цікавая падзея. На жаль, яна не магла згануць такой і дадала, што і ніхто другі ў вёсцы не будзе ведаць больш яе. У вёсцы няма ўжо старых людзей, так як няма і маладых.

— А мо побач дуба нейкі двор стаяў? — спытаў я яе.

— Калісь быў панскі двор, але стаяў ён далей, на ўзгорку каля сённяшняй *фермы* (так называецца адна з дзвюх вуліц вёскі). А ў дуб два разы ўдарыў гром; пасля другога ўдару дуб загарэўся і ўсе жыхары прыбеглі гасіць.

Пасярэдзіне дуба праходзіць велізарная трэшчына ад камля амаль да адламанага вярха, дзе звенчваецца своеасаблівай аркай, быццам сама Натура каплічку ўладзіла...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Новыя парадкі

З пачаткам другога паўгоддзя ў Камісарыяце паліцыі ў Орлі адбыліся кадравыя змены. Папярэдні камендант быў пераведзены ў Васількаў, а другі паліцыянт захварэў. Цяпер за парадкам у гміне сочаць новыя людзі. Паводле інфармацыі выконваючага абавязкі каменданта Камісарыята паліцыі ў Орлі старшага сяржанта Рамана Дамброўскага, прадстаўленай на пасяджэнні Камісіі па справах самаўрада і камунальнай маёмасці Рады гміны, стан парадку і бяспекі на тэрыторыі гміны нязначна паправіўся, аднак з'явіўся новы від злачыннасці — наркаманія.

Сёлета павысіўся паказчык выкрывання злачынцаў — 78,31% (у мінулым годзе — 60,9%). Зменшыўся таксама лік крадзяжоў, узломаў і дарожных аварый. Сёлета ўзбуджаных было 16 крымінальных спраў (на 5% менш чым летась), якія пераважна датычаць крадзяжоў, пабояў і дарожных здарэнняў. У групе адміністрацыйных правапарушэнняў найбольш, бо 29 спраў, датычыла выбарчых камітэтаў, якія не прад'явілі фінансавых справаздач. На тэрыторыі гміны праблемай становіцца наркаманія і распаўсюджвальнікі гэтага атрутнага рэчыва.

Радныя патрабавалі ўвядзення начных дзяжурстваў паліцыянтаў на тэрыторыі гміны. Да гэтай пары арлянскія паліцыянты 3-4 разы ў месяц дзяжурылі ў Бельску. Арлянскі камендант абяцаў адмяніць гэтую сітуацыю і ўвесці дзяжурствы ў Орлі прынамсі па суботах і нядзелях. Цяпер арлянскія паліцыянты змянілі сістэму сваёй працы (не паведамляючы жыхароў) і дзяжураць раз да абеду, а іншым разам пасля абеду. Да гэтай пары ўсім было вядома, што пасля 15 гадзіны паліцыянты выязджалі з Орлі і тэрыторыя гміны аж да раніцы заставалася без нагляду ахоўнікаў правапарадку.

Дакучлівай з'явай у Арлянскай гміне становіцца вандалізм, які праяўляецца ў бяздумным знішчанні дарожных знакаў. Указальнікі разбураюцца не толькі на дарогах, але і на вуліцах мястэчка.

Жыхары гміны змены ў працы камісарыята паліцыі прынялі з задавальненнем і спадзяваннем на паляпшэнне стану бяспекі.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Чарапашы ход

Калі я прыехаў з Ольштына ў Беласток а $8^{00}$ гадзіне, спадзяваўся перасесці тут, як калісь, на поезд у Бельск-Падляшскі а $9^{17}$. Пацягнуўся спачатку з перона ў пабудаваны пры цары вакзал, які цяпер у рамонце ад нейкіх пятнаццаці гадоў. І што бачу? Ад пяці гадоў нічога не зрабілі; малую пачакальню і касы адрамантавалі ў першыя гады, а вось камеру хавання зрабілі далёка, каля чыгуначных складоў, 300 метраў ад пачакальні. Падаюся туды з багажом на веласіпедзе; багаж прынялі, а веласіпед не. Бяру тады замок, прычапляю веласіпед да громаадвода і падаюся ў рэдакцыю „Нівы", бо цягнік у Бельск будзе а $13^{40}$. У рэдакцыі сустрэлі мяне ветліва, пасядзеў крыху, пагутарыў дый падаўся да брата Алёшы, які жыве ў Засценках. Калі там выйшаў з гарадскога аўтобуса, не пазнаў таго месца: так усё змянілася! Новыя жылыя дамы засланілі братаў дом. Я туды-сюды і няма каго спытацца, дзе брат жыве! Аж бачу шыльду пра продаж кветак і аздобных кустоў, а там сядзіць Алёша з белаю галавою. Ягоная жонка памерла два гады таму, адышлі дочкі і ён цяпер дапамагае адной з іх весці краму. Пагутарыўшы, развітаўся з братам і падаўся на вакзал. Забраў з камеры багаж, адчапіў веласіпед і падаўся на чацвёрты перон, дзе стаяў поезд у Бельск. 50 кіламетраў ехалі мы каля дзвюх гадзін; цягнік ледзь цягне вагоны! У купэ чую нараканне, што такім чарапашым ходам едзем у Еўропу. Пуць нерэнтабельны, а калісь поезд ехаў няцэлую гадзіну і было рэнтабельна. Праўду пісаў Сідарук; цягнік такі самы, і рэйкі, толькі хуткасці нельга прыбавіць... Калі ж у рэшце рэшт у Варшаве глянуць на нашу Польшчу „Б" прыхільней, каб вучні, што даязджаюць у школы, не трацілі столькі часу? Хутка хіба і зусім ліквідуюць поезд на гэтай лініі і тады сконьчыцца і той чарапашы ход.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# Неакуратныя паводзіны падлеткаў

Панядзелак, 20 верасня. У чыгуначнай пачакальні ў Кляшчэлях сустракаю знаёмага касіра, які стараецца адчыніць замок пры дзвярах білетнай касы.

— Што сталася? — пытаю.

— Нехта напапіхаў у замок ўсялякага свінства, — адказвае касір, — не магу яго адчыніць ды ўвайсці ў касу.

Амаль пятнаццаць мінут змагаўся касір з замком, аднак не ўдалося яму ўвайсці ў касу. На цягнік, які ад'язджае ў Чаромху ў $8^{12}$ білеты не прадаваліся. Нейкі падлетак проста пасмяяўся з працаўнікоў дзяржаўнай чыгункі. А я пытаю: дзе ваша культура, маладыя людзі?

Іншы прыклад неакуратных паводзін падлеткаў. Ужо два разы ў верасні абкідаўся камянямі пасажырскі цягнік на лініі Чаромха — Бельск-Падляшскі. Да здарэння даходзіла ў адным і тым жа месцы — побач чыгуначнага маста за Кузавай. Добра, што абышлося без выпадку. А што было б, каб пры акне сядзеў нехта з падарожных або кандуктараў і камень трапіў чалавека ў галаву? Лепш і не думаць.

Абкіданне цягнікоў камянямі стала модным не толькі ў нас. Такое здараецца і ў суседняй Беларусі. У панядзелак 20 верасня ехаў я цягніком з Чаромхі ў Брэст. Праходзячы праз вагон убачыў разбітае акно і параскіданае навокал шкло.

— Калі гэта здарылася? — пытаю ў знаёмай спадарожніцы.

— Гэта другая разбітая шыба, — кідае ў адказ беларускі мытнік. — Два дні таму назад жулікі абкідалі поезд каля Матыкалаў. Разбітую шыбу палякі паставілі на другі дзень. А зараз зноў такое ж здарылася за Матыкаламі...

Каментарый тут непатрэбны. Аднак неабходна шукаць паратунку ад хуліганаў. А ці не варта ўключыцца ў барацьбу з паразітамі ўсяму грамадству?

**Уладзімір СІДАРУК**

# Каб Гайнаўка прыгажэла

Самаўрадавыя ўлады Гайнаўкі шмат увагі прысвячаюць эстэтычнаму выгляду гэтага горада на ўскраіне Белавежскай пушчы, асабліва яго цэнтральнай часткі. Зараз ліквідуюць старыя і непрыгожыя, пераважна драўляныя дамы, між іншым па вуліцах Ігнаца Верабея, Стэфана Быторыя і 3 Мая. Мабыць, яшчэ ў гэтым годзе будзе знесены пяць руінаў па вуліцы С. Баторыя і дзве па вул. 3 Мая, побач завода „Фурнэль".

Ліквідацыя дашчэнту выэксплуатаваных жылых будынкаў магла б ісці больш шпаркім тэмпам, калі б, вядома, было дзе высяліць пражываючых ў іх сем'і.

**(гай)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Даражэнькі Астроне! Прысніўся мне сон, які, як мне здаецца, можа нешта канкрэтнае абазначаць.

Сніцца, што стаіць у нейкім доме труна з нябожчыцай. Гэта была мая суседка, яе хата стаяла праз некалькі хат ад маёй. Жанчына калісьці спявала ў нашым вясковым калектыве. Некалькі гадоў таму яна памерла, і ў калектыве ўсё заціхла. Усе члены хору вельмі шкадавалі яе, бо яна была ў нас вельмі актыўная і голас мела цудоўны.

Стаіць труна, а навокал яе пасядалі людзі. Раптам падыходзіць дзяўчынка, прытулілася да нябожчыцы. Нейкае дзіця, я не ведаю, хто яна. Я кажу, каб яна тут не перашкаджала. У гэты час жанчыны пачынаюць спяваць. Раптам нябожчыца, што ляжала ў труне, ажывае і пачынае спяваць тую песню разам з імі.

Ведаеш, Астроне, я думаю, што гэты сон можа прадвяшчаць адраджэнне нашага калектыву. Глянь жа сам: нябожчыца ўстала з труны і пачала спяваць разам з усімі. А як ты мяркуеш? **ГАННА**

Ганна! Твае меркаванні, бадай, маюць больш эмацыянальную афарбоўку. Ты лічыш на тое, што калі былая спявачка ажыла і пачала спяваць разам з усімі, дык ужо адродзіцца калектыў. А тут, мілая, іншыя справы на першы план высоўваюцца. Першая справа — гэта труна, якая для маладых абазначала б весялосць, для людзей сярэдняга ўзросту — прыбытак, а для старога — блізкую смерць. Не ведаю, колькі табе гадоў, але чуў я, што занадта многа маладых у нашых вясковых калектывах няма. Мо смерць цябе пакуль што абміне, але не абміне небяспека. Пра яе гаворыць той факт, што жанчына, якая ляжала ў труне, раптам ажыла. Небяспека, можа нейкая хвароба, на жаль.

**АСТРОН**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Міранoвіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Фрашкі пра нашых

## Слова за слова

Грабе грошы, сам не знае, куды іх дзяваці.
Мае, кажуць, ужо тры аўто і, кажуць, дзве хаці.
То нічога, што ідэалістам слыў за маладосці,
Гляньце, які тоўсты, а быў — адны косці.
Ну, хай яго я ўчора бачыў: такі, як заўсёды,
Але ж у газетах пішуць, што стаў анты-подам.
А найбольш яго так „хваляць" сябры да аміну,
Што кляліся ў вернай дружбе і службе айчыне.
Кожны на свой падворак забраў сваю ўласнасць
І толькі тых запрашае, што ядуць хлеб з маслам;
З аднае печы хлеб той, а масла — з каровы.
І б'юцца зуб за зуб і слова за слова.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. сусед Ізраіля, 4. невялікае ваеннае судна для дзеяння паблізу берагоў, 6. няволя ў ворага падчас вайны, 7. конскі корм, 9. абрэвіятура арганізацыі Кофі Анана, 11. папярочная дамба, якая ідзе ад берага да сярэдзіны ракі, 12. конскі стадыён, 13. частка сцэнічнага твора, 15. горад у Славакіі, 17. прадукт харчавання прадаўгаватай формы, 18. Аляксандр, расейскі пісьменнік (1749—1802), 19. сталіца Галандыі.

**Вертыкальна:** 1. вежа са званамі, 2. псеўданім Уладзіміра Ульянава, 3. драпежны звярок сямейства куніцавых, 4. хвалевы струмень, які застаецца за ідучым суднам, 5. грашовы дакумент з распараджэннем аб выплаце грошай, 6. аглушальны ўдар грому, 8. цыркавы артыст-камік, 9. насякомае з джалам, 10. спосаб ткання, ад якога залежыць від перапляцення ніцей у тканіне, 14. камандзір карабля, 16. гара і мыс на поўдні Крыма, 17. можа быць бяздонная.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 34 нумара**

**Гарызантальна:** грог, слюда, лірыка, яслі, здзек, націна, жарарака, хабар, альвеола, бульбіна, Нгамі, фламінга, Уайльд, амяла, брыз, казіно, фішка, рота.

**Вертыкальна:** аладка, адзежа, рэстаран, гліна, праца, ікона, карабель, Акаванга, хіба, біла, мора, пані, лабірынт, гамбіт, малока, Гашак, флюід, адбор.

Рашэнне: **Ніна Мушынская**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## Пра хана

Хан быў уладаром вялікае імперыі, слава пра якую расходзілася па цэлым свеце. Меў ён косыя бровы, якія рабіліся вертыкальнымі, як зрэнкі ў ката, калі хан хваляваўся, а хваляваўся ён тады, калі яму нешта не падабалася, напр. калі нейкія члены ягонага насельніцтва, не атрымліваючы належнай ім закускі згодна дэвізу „з сытым сабакам марнае паляванне", бухторыліся. Тады хан выпростваўся на крэсле, або нават уставаў, зацiскаў кулакі і зубы ды цадзіў:

— Нада харашо!

Ханава імперыя раней складалася з розных улусаў, якіх уладары маглі імі правіць толькі тады, калі атрымалі ад хана ярлык. На так званым паўночным захадзе, а па сутнасці на захадзе ад ханавай сталіцы было ўладанне, якое ўжо фармальна не было, а па сутнасці было улусам. Князь таго чырвона-зялёнага ўладання, якое па сутнасці не было чырвона-зялёным, хаця і не меў фармальнага абавязку хадайнічаць пра ярлык, хадайнічаў некалькі разоў у год. Князь хітрамудрасна тлумачыў хану, што слова *хан* абазначае тое ж, што і на мове насельніцтва ягонага улуса слова *пан* і што першае з іх паўстала з другога ў выніку дысіміляцыі зычных. Быў ён вельмі хітры і хацеў, каб і хан таксама мог атрымліваць ярлык і то з княжевых рук. У гэтай справе хан быў за і супраць, бо ярлык, так як і рознае дабро, і хацеў мець, і не хацеў. Гэтакая нерашучасць вельмі адмоўна ўплывала на ханавы здароўе і рэпутацыю, бо князь, прыбываючы ў ханаў харом, фамільярна выпучваючы грудзі, быццам жонка ханава якая, кідаўся цалаваць гаспадаровы не кончыкі ботаў толькі вусны. Такое дзявоцкае нахабства князя напаўняла хана агідаю, ад якое звычайны баскак толькі бы плюнуў. Хан быў, аднак, з аднаго боку культурным чалавекам, а з другога боку не хацеў, каб разявакі, якія не цікавяцца палітыкай і не разбіраюцца ў яе тонкасцях, гаварылі, што ён апляўвае заслужанага заканадаўчага дзеяча. Таму хан дзеля чысціні ротавай поласці пасля кожнай такой сустрэчы не пляваў, толькі паласкаў рот высокапрацэнтнай вогненнай вадкасцю, якая захоўвала ягоны стрававальны шлях ад інфекцыі і аслабанала псіхіку ад прыгнечанасці нядаўняю агідай, але адначасна разбуральна ўздзейнічала на ханава здароўе і выклікала падазрэнне, што хан злоўжывае гаручым гаючым.

Даўным-даўно хан меў многа жонак і госць, калі прыбываў у ягоны двор, абавязаны быў у першую чаргу пакланіцца і даць прыстойныя падаркі ўсім ім і толькі тады, з яшчэ большымі паклонамі і падаркамі мог звяртацца да ўладара. У сённяшні час, пасля розных эвалюцый і рэвалюцый, падчас якіх ханы прыкідваліся, што не маюць нават ніводнай жонкі адно толькі медалі, жонак пазбаўлена іх ранейшага высокага рангу, заступаючы іх вялікай агульнай сям'ёй, якая яшчэ больш за жонак любіць усялякія каштоўнасці.

Дакладных звестак пра ханаву сям'ю не мелі нават найбольш спрактыкаваныя сямейныя даследчыкі. Састаў сям'і пастаянна змяняўся, а прынцыпаў сямейнай прыналежнасці — гаварылі — *без водки не разберёшь*; не турбаваўся імі нават сам хан. Таму некаторыя ханавы госці не трымаліся ніякага парадку і негігіенічна фамільярнічалі.

Жонак шанаваць трэба, нават хану, бо жонка трымае парадак і паводле найбольш спрактыкаванага даследчыка жонак — мудрага цара Саламона, яна — вянец мужу свайму.

**Адам МАНЬЯК**



Мал. Алеся СУРАВА

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Настаўніца пытае вучаніцу:
— Ці маеш брацiка або сястрычку?
— Яшчэ не, але хутка будзе.
— Мама табе пра гэта сказала?
— Не, тата.
— А што на гэта мама?
— Яна пра гэта нічога не ведае.
— Як гэта: нічога не ведае?
— Бо мы з татам хочам зрабіць ёй сюрпрыз.

* * *

Ксёндз, бацюшка і рабін едуць поездам у адным купэ ды іграюць на грошы ў карты. З'яўляецца паінфармаваны пасажырамі кандуктар:
— Ці вы ігралі ў карты?
— Не, — адказваюць згодна ўтраіх.
— Ці можаце гэта прысягнуць? — пытае ксяндза.
— Прысягаю, што не іграў.
— А вы таксама можаце прысягнуць? — пытае бацюшку.
— Прысягаю, што не іграў.
— А вы таксама прысягаеце? — пытае рабіна.
— Калі ніхто з іх не граў, дык з кім жа я меў бы іграць?

* * *

Муж устае раніцаю з прапойкаю, глядзіць у люстэрка ды пытае жонку:
— Што ты думала, калі я ноччу вярнуўся дадому з падбітым вокам?
— Нічога не думала, бо тады яшчэ ты не меў падбітага вока.

* * *

У санаторыі сустракаюцца два старыя знаёмыя:
— Ну што, зноў прыехаў ты сюды са сваімі хваробамі?
— Не, цяпер я прыехаў без жонкі.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:
— Чаму ты такая знерваваная?
— Не ўдалася мне ўчора гасціна. Уяві сабе: адзін з гасцей стаў расказваць такі непрыстойны анекдот, што я была вымушана выгнаць яго за дзверы.
— Гэта дробязь.
— Так; толькі ўсе выйшлі за ім, каб паслухаць заканчэнне.